

Прыгажосць карункі →3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



Панны з Белавежжа →4

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 17 (3076) Год LX Беласток, 26 красавіка 2015 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Фатограф ПНРу



Сто фатаграфій склалася на фотавыставу **Рамана Сянько**, адкрытую ў Народным доме ў Саколі (куратар Барбара Пахольская). Гэта толькі мікраскапічная частка тых, якія ён выканаў, дакументуючы падзеі ў Беластоку, у рэгіёне, краіне і свеце на працягу больш за паўстагоддзя. Публікаваў іх у рэгіянальных газетах: «Газеце беластоцкай», «Кантрастах», але і ў цэнтральнай прэсе: у «Трыбуне люду», «Зялёным штандары» ці «Новай вёсцы». Таксама выкарыстоўвала іх доўгія гады «Ніва» і нават рабіў здымкі да нашых тэкстаў па спецзаказе, па-сяброўску. Больш за 20 тысяч фотаздымкаў з часу працы ў Цэнтральным фатаграфічным агенцтве (ЦФА) аўтар перадаў у Дзяржаўны архіў у Беластоку, і гэта яны з'яўляюцца асноўнай часткай выставы, дзе можам убачыць запісы паўсядзённага жыцця з 70-х гадоў мінулага стагоддзя (падзеі, аб'екты, людзі), і пазнейшых гадоў, як тыя з першай прэзідэнцкай выбарчай кампаніі Леха Валэнсы ў двары палаца Браніцкіх ці Браніслава Герэмка з таго часу на мітынгу ў Аўгустове. Ёсць тут таксама шмат партрэтаў жанчын, якія — як і сам фатограф прызнаецца, — ён любіў увекавечваць.

Раман Сянько нарадзіўся на Сувальшчыне. У цяперашні час жыве ў Саколі. Хацеў быць фатографам з ранняй маладосці. Першы фотаапарат — савецкую «Зорку» — падараваў яму старэйшы брат. З моманту прыбыцця ў Беласток у 1955 годзе зрабіў больш чым чвэрць мільёна здымкаў. Пасля працы ў ЦФА заснаваў з сынам першы ў Беластоку аўтасалон. **Барбара Пахольская** ўспамінае:

— Ужо ў юнацтве бегаў ён па беластоцкіх Плянтах, дзе арганізавалі фэсты і іншыя мерапрыемствы пад адкрытым небам. Здымаў, дакументаваў, запісваў гісторыю тадышніх мімалётных момантаў. Выпадкова трапіў на Багдана Грынявіцкага, рэдактара «Газеты беластоцкай», якую чыталі нават у самых маленькіх вёсках былога Беластоцкага ваяводства. Быў 1957 год. І тут — як быццам махнуўшы чароўнай палачкай — адкрыліся перад ім дзверы рэдакцыі вядомай газеты. Пасыпаўся дождж заказаў абслугі буйных VIP-персон, якія падаваліся з візітамі на Беласточчыну, урачыстасцей здачы ў карыстанне новабудаваных прымысловых заводаў, публічных аб'ектаў, юбілеяў ансамбляў, паспяховых людзей. Галоўны рэдактар «Газеты беластоцкай» у знак удзячнасці за яго намаганні арганізаваў быў яму сустрэчу з Генрыкам Гжэндам, кіраўніком фотакарэспандэнтаў Цэнтральнага фатаграфічнага агенцтва. І так здзейсніліся мары пана Рамана аб падарожжах па вялікім свеце ў кампаніі выдатных людзей з першых старонак газет. Спачатку быў фотакарэспандэнтам Цэнтральнага фатаграфічнага агенцтва тут, «на сваіх смеццях», пасля па ўсёй краіне, і, нарэшце, за мяжой. Ніколі не быў у стане ўспомніць, у колькіх краінах быў і якія сустрэчы «ў вярхах» дакументаваў.

Раман Сянько найбольш запамятаў візіт Эдварда Герка, Іосіфа Броз Ціта, маскоўскае пахаванне Леаніда Брэжнева, але і час прэзідэнцкай выбарчай кампаніі Леха Валэнсы ў 1989 годзе. Удзельнічаў у паездках у Францыю, Грузію, Арменію, Таджыкістан, Югаславію. ЦФА, для якога ён працаваў галоўным чынам, існавала ў 1951-1991 гадах. Пры ПНР была адзінай вядучай установай фотасервісу. Падлягала вострай цэнзуры. Яе фотакарэспандэнты павінны былі дакументаваць усе аспекты жыцця ў адпаведнасці з тагачаснай польскай абавязваючай ідэалогіяй. Барбара Пахольская:

— Без здымкаў Рамана Сянько немагчыма адчуць клімат тадышніх гадоў, не змаглі б мы па вартасці ацаніць змены, якія адбыліся ў нашым асяроддзі.

Аўтар на адкрыцці (18 красавіка) расказваў «Ніве»:

— Многія з маіх каштоўных здымкаў дзесьці прапалі або знішчаны. Яны ляжалі, як фільмы з імі ў склепе і заліты вадой. ЦФА ужо няма, а яго пераемнік — Польскае агенцтва друку — не вельмі добра арганізаваны, калі справа ў фатаграфічных архіваліях. Прызнаюся, што па-за працай у ЦФА я крыху халтурыў, рабіўшы здымкі драматычнага і лялечнага тэатраў у Беластоку і лялечнага ў Варшаве.

Успамінаў:

— Пасля 1970 года было трохі лепш, але раней у мяне не было ніякага ўплыву на тое, які здымак мае быць змешчаны. Адна трація здымкаў, якія я зрабіў, не з'явіліся, таму што такі быў прысуд цэнзараў. Калі я здымаў, міліцыянты пільна глядзелі на мяне, але ведалі, што я магу фатаграфаваць, так што не мяшалі. Я не баяўся націскаць на кнопку фотаапарата ў любы час. Я ведаў, што хутчэй за ўсё могуць не апублікаваць майго здымка. Я ніколі не меў праблем са здымаючым чаго-небудзь. І так было вядома, што я пад наглядам спецслужбаў. У «Ніве» я публікаваў фатаграфіі, таму што сама газета была гэтым зацікаўлена. Часта па-сяброўску прасілі ў мяне, каб я з'ездзіў у глыбінку і зрабіў фотарэпартаж пра нейкае свята ці падкінуў фота пры нагодзе абслугі іншых мерапрыемстваў. «Ніва» ахвотна выкарыстоўвала мае фатаграфіі.

Раман Сянько выдатна ведаў якія партрэты лідараў «глынуць» ПНРаўскія газеты:

— Яны мелі выглядаць сур'ёзна, з гонарам, і найлепш анфас.

Раз фатограф злавіў Эдварда Герка падчас аднаго з гаспадарскіх візітаў у глыбінцы, які запэрхаўся, таму што бурбалкі ад выпітай кока-колы ўдарылі яго ў нос. Фота, вядома, ніколі не трапіла ў друк.

Сярод многіх прысутных на вернісажы ў Саколі быў таксама дэпутат Сейма **Аляксандр Сасна**, які называе сябе апантаным калекцыянерам старых фотаздымкаў і паштовак:

— Я на кожнай выставе, дзе іх можна ўбачыць. У Саколі я ўвогуле першы раз. Я ўбачыў на гэтым паказе «сямейны» здымак. На адным з іх ёсць мая сваячка Вера Максімовіч з вёскі Рудуты, што каля Орлі, якая жыве пад Голдапам. На гэтай фатаграфіі яна як старасціна суправаджае Эдварда Герка на нацыянальным фестывалі ўраджаю ў 1973 годзе ў Беластоку. Была яна выбрана таму, што была найлепшай даяркай у ПГРы, дзе працавала. Гэтыя старыя, чорна-белыя фатаграфіі выклікаюць у мяне пачуцці і ўспаміны. У пэўным узросце чалавек ахвотна вяртаецца ў мінулае, і хоча на ім будаваць будучыню. Шкада толькі, што гэтыя фатаграфіі не падпісаны, няма прозвішчаў асоб, якія на іх, а ёсць толькі подпісы тыпу: «татарка чытаўшая Каран» ці «народны артыст».

Арганізацыя выставы стала магчымай дзякуючы намаганням Таварыства сяброў Саколя, Гміннага культурнага цэнтра ў Міхалове і Цэнтра мясцовага прадукту ў Саколі. З 1 мая будзе яна паказана ў Гмінным культурным цэнтры ў Міхалове.

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА



9 770546 196000



# „Усё будзе добра"

„Усё будзе добра" — з такім аптымістычным лозунгам плануе свае канцэрты ў Беларусі папулярны ўкраінскі рок-гурт „Океан Эльзи". І гэта, напэўна правільна, разумныя людзі кажуць, што думкі матэрыяльныя. Дакладней, духовыя і душэўныя парывы нейкім чынам матэрыялізуюцца і ўплываюць на іншых людзей. Ды людзі наіўна і хочуць верыць, што ўсё будзе добра.

Вось індывідуальныя прадпрымальнікі Беларусі. Яшчэ гадоў пятнаццаць таму амаль усе яны самаўпэўнена дэкларавалі: „Мы паліцікай не занімаемся, мы — людзі дзела і себе на кусок хлеба ўсегда заработаем". Маўляў, будзем жыць, як сад на пагодзе, як Адам у раі. А салідарнасці з тымі, хто змагаўся і за іх інтарэсы, ніколі не выяўлялі. Ды не туды тое. Прыйшоў час і дзяржаўная палітыка занялася імі. І вось ужо трыбухі падцягнула і кішка ў кішку лезе. Ужо і на кавалак хлеба цяжка зарабіць, бо дзяржава абдзірае як ліпку.

Але тое, што насельнікам Беларусі хутка не будзе нават за што купляць прадуктаў харчавання з-за таго, што эканоміка цалкам завязаная на Расеі і даведзеная да крызісу, яшчэ не самае страшнае. Самае страшнае — гэта калі тая ж Расея ўсё ж паглыне нашу краіну. Тады мы зноў непазбежна будзем уцягнутыя ва ўсе яе войны. А без вайны расейская імперыя жыць проста не можа.

Навукоўцы падлічылі, што за ўсю вядомую нам гісторыю чалавецтва, зямля зазнала каля 30 тысяч рознага маштабу войнаў. Беларуская зямля ніколі не мела шчасця на мірны перыяд. Ды і арда на ўсходзе вось ужо пяцьсот год не можа жыць без вайны. Гэта шведы неяк змаглі збіць з сябе заваёўніцкую пыху і пастанавілі жыць мірна — ды вось ужо і самі дзвесце гадоў без вайны няблага сабе пачуваюцца, ды і суседзі ўсе задаволеныя з таго. Але шведы там, далёка, недзе на Скандынаўскай паўвыспе, а мы — беларусы — тут, у цэнтры Еўропы, цэлы час паміж немцамі ды расейцамі, паміж іхных пактаў, паміж расейскім молатавым і нямецкай меркавальняй.

Дурных людзей у кожнай краіне заўсёды больш, чым разумных, злодзеяў і крывадушнікаў заўсёды больш, чым людзей добрых і сумленных. Не дзіва таму, што ў дэмакратычных выбарах, незалежна ад дзяржавы, найчасцей выбіраюць горшых. У нас жа выбары кіраўніка ўжо даўно без шанцаў на станоўчыя змены. Зараз апазіцыя ўжо і не вылучае сур'ёзных кандыдатаў на чарговую прэзідэнцкую кампанію па афармленні чарговага тэрміну для „усенароднага", пажыццёва абранага кіраўніка. З гэтай нагоды адусюль чутны плач з крапкадзілавымі слязамі прадстаўнікоў Цэнтрвыбаркама і дзяржаўных прыкормленых медый: „А вой, якая сумная кампанія, як жа нам бракуе ўдзелу сапраўднай апазіцыі!" — галосяць усе гэтыя лазавікі-якубовічы. Апазіцыі яны не баяцца, будучай люстрацыі, якую ніхто ім не рыхтуе, таксама. А вось прыходу маскоўскіх агрэсараў яны баяцца па-сапраўднаму. Бо адразу ж будуць выкінутыя на сметнік і ўзбочыну гісторыі, заменены на больш праверанных Масквой прыхадняў. Але ўголас яны вяшчаюць, што ўсё будзе добра і нашу самую стабільную ў свеце стабільнасць ніхто не парушыць. Хоць улада і яе лісліўвыя паслугачы мусяць зараз баяцца як ніколі за свой спакой. Хоць бы і з тае прычыны, што Майдан ва Украіне адбыўся якраз тады, калі ўкраінская апазіцыя сябе дыскрэдытавала і нібыта дэградавала.

А насельнікі Беларусі найбольш баяцца амерыканскай уяўнай агрэсіі. Ім і да галавы не прыходзіць, што за ўсю нашу гісторыю амерыканцы аніводнага разу не прыходзілі на нашу зямлю і не забілі аніводнага чалавека. Што ўсе беды прыходзілі зусім з іншага боку. Насельнікі Беларусі не баяцца ні георгіеўскіх стужачак, ні суворавскіх вучэльняў, ні расейскіх вайсковых базаў з іхнімі самалётамі, вераць, што ім сапраўды добрым братам стане мірны астравецкі атам. Нібыта і не было ні сталінскіх канцлагераў, ні вайны ў Афганістане, ні Чарнобыльскай катастрофы.

І мы па-ранейшаму спадзяемся, што ўсё будзе добра.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Дэмакратыя
## стаіць на гайнаўскім сыры



Выбары на прэзідэнта РП не за гарамі і варта прысвяціць ім крыху ўвагі. Толькі што замест аб сумных грубых выбарчых жартах, нягледзячы на блазенскія спробы некаторых кандыдатаў, я аддаю перавагу пісаць аб фантастычным сыры з Акругowага малочнага кааператыва (АМК) у Гайнаўцы, званым «Царскі» — суперсмачным, але ў арганалептычным абыходзе даволі складаным, і ўпартым так, што прадаўшчыцы нарваўскай крамы трапляюць у паніку, калі прабуюць з вялікай гамолы адкроіць кавалачак у пару грам. У пару грам толькі таму, што той скубанец дарагі, ды варты сваёй цаны. Нялёгка бярэ яго электрычны разак, трэба лупіць яго вялікім нажом. Што аб ім думаюць дамы, пачырванеўшыя ад напружання і запалу яго дзялення, чароўна растрапаныя, гэта іхні сакрэт. У любым выпадку, прэмію за гераічныя намаганні рэзкі сыру яны заслугоўваюць, і ўсё! Тым не менш, і аб выбарах мне трэба напісаць. Гэта ж адзін з самых відовішчных момантаў польскай дэмакратыі. Дэмакратыі правінцыйнай, як і гэты гайнаўскі сыр, злёгку нуварышаўскай, але пацягваючай палітычнымі смачкамі і зньюансаванымі смуродзікамі не менш, чым тыя высокія ў сваёй арыстакратычныя традыцыі і раскручаныя, і моцна ўжо насычаныя пляснівай горычу старыя дэмакратыі Еўропы. Адным словам сыр «Царскі» з Гайнаўкі шэдэўр такі ж, як і дэмакратыя ў Польшчы — якая з'яўляецца вытворнай са старых рэцэптаў, хоць без апоры на палітычныя традыцыі, таму таксама нераўнамерная, часам хатычная, і небеспамылковая, але затое поўная запалу і здаровага пачуцця ўласнай важнасці яе стваральнікаў — усіх нас. І так сярэдніх жырцоў сыру, як і палітычнага істэблішменту, не прыхільнікаў але і кантэстатараў, якія, калі не пачнуць тузацца адны з аднымі, часам дажываюць да яе сталага ладу. Таму што дэмакратыя, як добры сыр, знаходзіцца ў пастаянным працэсе змен. Чым больш мацуецца, тым больш набываецца сваім глыбокім смакам. Для таго, каб дастаць з яе арамат, трэба моцна над ёю напрацавацца. Глядзіце: прадаўшчыцы з нарваўскай крамы! Толькі ці ім падабаецца тааакі сыр?

Шчырае захапленне сырам «Царскім», выраблены з любоўю майстрамі гайнаўскага малочнага кааператыва, пра які вытанчана пісаў я на фейсбуку, выклікала некаторае замяшанне сярод маіх знаёмых. Тыя, хто паспрабаваў яго, гатовыя дараваць яму любыя недахопы. Тыя, хто не меў таго шчасця, папракаюць яго ў супярэчлівым змесціве. Бо акрамя малака, яго смак будуюць хларыд кальцыю, нітрыт калію і фарбавальнік аннато. Магчыма, гэтыя ядавіта гучаўшыя інгрэдыенты неабходныя, каб з сыру дастаць яго непараўнальны водар, але волас стае дыбам на чэрапе ад жаху. Калі б не тое, што я ведаю хто пастаўляе малако ў гайнаўскую малачарню, я моцна б тое любаванне сырам прыпыніў. Але я ведаю сялян, якія забяспечваюць малаком гайнаўскі АМК. Гэта салідныя гаспадары, якія клапоцяцца аб гігіену даення. У нейкай ступені таксама ведаю іхніх кароў. Я ведаю, што яны пасуцца на пышных лугах у вілах рэк Нарвы і Нараўкі, што я бачыў сваімі вачыма, і таму я магу дараваць гайнавянам той тэрпенны фарбавальнік аннато, які выкарыстоўваецца для афарбоўкі тканін і... фарбаў. Таму што сыр, які маюць для гурманаў, гэтак жа недасканалы ў сваёй дасканаласці, як дасканалы ў недасканаласці. Проста — боскі! Але ці ж нельга было замяніць празмерны метафізыцызм аннато па-чалавечы — экстрактам морквы?

Як кожны шляхетны сыр, будзь ён французскі ці швейцарскі, кожная дэмакратыя патрабуе цярпення. Гэта датычыць так польскай дэмакратыі, так і сыру «Царскага». Як сцвярджаюць яго вытворцы, паверхню гамолы сыру пакрываюць ахоўным пластом, які накладваецца некалькі разоў праз вызначаныя прамежкі часу. Гэтае пакрыццё прадухіляе скарынку ад цвілі і празмернага высыхання. Акрамя таго, сыр падчас яго выспявання залежыць ад рэжыму паслядоўнасці змяненняў тэмпературы (паніжэння і павышэння). Дзякуючы гэтаму «ўсе хімічна-мікрабіялагічныя працэсы адбываюцца ў парэнхіме сыру ў гарманічны спосаб і ў выніку атрымліваецца вельмі пажаданы, тонкі, поўны і асаблівы водар доўгавыспяваючага сыру». Царскі сыр спее мінімум тры месяцы. І найлепш смакуе пасля мінімальнага гадавога выспявання. Дэмакратыя ў Польшчы мусіць спецць значна даўжэй. Але цярпенне акупіцца ўсім. Ну, у рэшце рэшт!

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Чверць стагоддзя без цэнзуры

Гэта была, несумненна, адна з форм рэпрэсіі. Часам вельмі балючая. Часам асуджаючая, асабліва інтэлектуальна творчых людзей, на нябыт. Цэнзура. Па вызначэнні — гэта кантроль публічнага перадавання інфармацыі, які абмяжоўвае свабоду публічнага выказвання думак і перакананняў. А больш канкрэтна, з'яўляецца яна «цэласцю дзеянняў, мэта якіх — нейкія карысці асоб ажыццяўляючых цэнзуру. Распаўсюджванне няпоўнай (выбарачная праўда) і памылковай (абман) інфармацыі выклікае жаданую маніпуляцыю перакананняў або ўзроўню свядомасці. Гэта прыводзіць да абмежавання права на свабоду выказвання адной асобы або ўстановы іншай, таксама дзяржавай, асноўных правоў чалавека — права на свабоду выказвання меркаванняў і свабоды прэсы». Першыя згадкі пра патрэбу яе законнага ўвядзення сягаюць старажытнай Грэцыі. Апісаны хіба ўсе механізмы яе крыніц і паслядоўнасцей, прымянення і ўздзеяння. Сама стала прадметам даследаванняў і навуковых трактатаў, ці «гераіняй» розных мастацкіх твораў (кніг, фільмаў, тэатральных спектакляў...). Даследчыкі адрозніваюць сем асноўных яе тыпаў: інстытуцыянальная, прафілактычная, прававая, рэпрэсійная, унутраная, палітычная, рэлігійная. У гэтых катэгорыях не змяшчаецца самацэнзура, якую часам блытаюць з палітычнай ці маральнай карэктнасцю.

Нядаўна мінула дакладна чвэрць стагоддзя з часу адмены цэнзуры (прафілактычнай) у Польшчы, а на самой справе, калі быць дакладным, з прыняццем парламентам 11 красавіка 1990 года закона, які адмяніў Галоўную ўстанову кантролю па справах друку, публікацый і відовішчаў. Функцыянавала яна пад гэтай назвай з 1981 года. Раней, з 1946 года, называлася Установай дзяржкантролю прэсы, публікацый і выступленняў. Сёння ў Польшчы прафілактычная цэнзура з'яўляецца неканстытуцыйнай, але Еўрапейскі Трыбунал па правах чалавека неаднаразова ўказваў на цэнзуратворчую ролю 212 артыкула польскага крымінальнага кодэкса, выдаліць які заклікаюць ад гадоў няўрадавыя арганізацыі, а які кажа: «Той, хто прыпісвае іншай асобе, групе асоб, установе, юрыдычнай асобе або арганізацыйнай адзінцы без юрыдычнай уласцівасці такія паводзіны або ўласцівасці, якія могуць зняважыць яе ў публічным меркаванні або выставіць на страту даверу, неабходнага для дадзенай пазіцыі, прафесіі або дзейнасці, караецца штрафам або абмежаваннем волі». А чарговы артыкул пастанаўляе, што калі «злачынец здзяйсняе правапарушэнне сродкамі масавай камунікацыі, падлягае пакаранню ў выглядзе штрафу, турэмнага зняволення або пазбаўлення волі на адзін год». Некаторыя нават называюць гэты запіс «ПНРаўскім трупам, які затыкае рот свабодным сродкам масавай інфармацыі». Тым не менш, ні адна палітычная сіла не адважылася выдаліць гэты запіс крымінальнага кодэкса.

У фільме «Ucieczka z kina „Wolność"» Войцеха Марчэўскага галоўны герой — якраз цэнзар, якога іграе Януш Гайос, кажа аднойчы: «Цэнзура патрэбная. Цэнзураванне з'яўляецца мастацтвам. Добры цэнзар павінен быць мастаком. Акрамя таго, гэта гульня». Аб раўндзе адной з такіх гульняў з часу ПНРаўскай эпохі я ўспомніў з нагоды гэтай круглай гадавіны, калі ў час майго дзяцінства мая маці ў 70-х гадах мінулага стагоддзя кіравала беластоцкай гарадской культурна-адукацыйнай кансультацыяй і прыняла на работу ў ёй — бадай на пасаду інструктара — Сакрата Яновіча, які тады за непакорлівасць атрымаў воўчы білет і на працягу доўгага часу быў без працы. Падчас аднаго з закрытых мерапрыемстваў (сцэнарыі такіх не падлягалі папярэдняй цэнзуры), арганізаваных у кансультацыі ў сядзібе прафсаюзаў (цяпер там клуб «Фама»), Сакрат Яновіч стаяў ля ўвахода, правяраючы запрашэнні. Убачыўшы вядомага ў культурным асяроддзі ў Беластоку цэнзара, рашуча забараніў яму ўваход, заікаючыся ад хвалявання: «Кіраўнічка мяне звольніць, калі я ўпушчу вас без запрашэння!».

Ну, і цэнзар не ўвайшоў. Скандал тады правеяла праз косткі, але, наколькі я памятаю, мая маці мусіла моцна тлумачыцца ў камітэце партыі. Гэта, аднак, быў, верагодна, адзін з самых лёгкіх баёў з цэнзурай Сакрата Яновіча. Цікава, якія ён мусіў весці як пісьменнік і публіцыст. Вельмі шкада, што ў гэтае 25-годдзе я не магу ў яго пра гэта спытацца. Дарэчы, з задавальненнем прачытаў бы або паслухаў наогул аб барацьбе беларускага літаратурнага асяроддзя ў Польшчы з Установай кантролю.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

У VIII Аглядзе рукадзелля — гафту і карункі Гайнаўскага павета, які арганізуе Гайнаўскі дом культуры, прынялі ўдзел ажно 40 асоб з Гайнаўшчыны і Орлі Бельскага павета. Адкрыццё конкурснай выставы адбылося 8 красавіка ў адрамантаваных галерэі і вялікім калідоры ГДК. Можна ўбачыць на ёй традыцыйнае і сучаснае рукадзелле. Апошнім часам конкурсныя выставы ладзіліся ў галерэі «Гайна» Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы, а сёлета выстава вярнулася ў будынак дома культуры.

# Гафт і карунка Гайнаўскага павета





Адкрылі выставу і падвялі вынікі агляду дырэктар Гайнаўскага дома культуры Расціслаў Кунцэвіч, мастацкі кіраўнік дома культуры Ядвіга Кучкін і адказная за агляд старэйшы інструктар Анна Тарасюк.

— Працы дасылаюць нам таксама новыя творцы. Сёлета ацэньваліся каля 200 работ сарака творцаў. Гэта нас цешыць, бо такой вялікай колькасці ўдзельнікаў у нас яшчэ не было. Гэта сведчыць, што агляд нам расце. На выставе многа прыгожых прац выкананых рознымі тэхнікамі. Частка творцаў карыстаецца традыцыйнымі матывамі, іншыя спалучаюць даўнія матывы з сучаснымі, карыстаючыся даўнімі кампазіцыямі ствараюць новыя матывы. Мы адкрытыя на новыя тэхнікі. Сёлета стварылі асобную катэгорыю *іншыя тэхнікі*, у якой паказваем пацеркавы гафт і біжутэрыю суташ, — сказала **Анна Тарасюк**.



Пасля адкрыцця выставы і ўручэння дыпломаў ды ўзнагарод удзельнікі вернісажу захапляліся гафтаванымі вырабамі, карункавымі абрусамі і сурвэткамі, прыглядаліся карцінам і іконам ды іншым вырабам рукадзелля.

— Мы адрамантавалі калідор і галерэю і тады рашыліся вярнуць сюды конкурсныя выставы. Адрамантавалі мы таксама паддашак і прыстасавалі для нашых патрэб, прадбачваем рамантаваць сцэну. Асноўныя сродкі на мадэрнізацыю і рамонт атрымалі з Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны, а чацвёртую частку кошту інвестыцыі пагасіць гарадскі бюджэт, — сказаў дырэктар ГДК **Расціслаў Кунцэвіч**.

Арганізуючы агляд рукадзелля Гайнаўскі дом культуры дзейнічае ў напрамку захоўвання народных узораў і матываў, прэзентуе таксама мастацкае рукадзелле з сучаснымі матывамі.

Асаблівае зацікаўленне выклікалі ручнікі, выкананыя з выкарыстаннем даўніх узораў і прымяненнем гафту і карункі. Выканала іх Ірэна Міхаляк, якая атрымала першую ўзнагароду. Працы ацэньвала журы ў складзе Аліна Дэмбоўская — кіраўнік Музея ў Бельску-Падляшскім (старшыня конкурснай камісіі), Эва Мароз-Кэчынская — антраполаг культуры, захавальнік фондаў Музея Белавежскага нацыянальнага парку і Агнешка Ціханюк — гісторык мастацтва, супрацоўніца Гайнаўскага белмузея. Другую ўзнагароду ў катэгорыі мяшанай тэхнікі атрымала Зінаіда Бакун, якая ў сваіх вырабах выкарыстала матывы птушак і іншых даўніх узораў.

— Птушкі я бачыла на бабуліным ручніку, зробленым у дваццатых гадах мінулага стагоддзя. Мне спадабаліся старыя ўзоры і я іх перанесла на мае працы, — сказала **Зінаіда Бакун**, узнагароджаная за вышыўку з прымяненнем традыцыйных узораў.

Трэцюю ўзнагароду ў катэгорыі гафту і карункі атрымала Малгажата Краўчык з Плянты за прыгожа выкананы фартушок.

— Я прыехала сюды з цэнтральнай Польшчы. Мяне захапляе мясцовая традыцыя. Я выканала фартушок з выкарыстаннем мясцовых узораў, якія ўзбагаціла новымі матывамі, — сказала **Малгажата Краўчык**.

У катэгорыі гафту ўзнагароджана была Дарота Сенюць, а вылучэнні атрымалі Галіна Бірыцкая, Іаанна Пятрова, Лідзія Вашкевіч і Тэрэса Барташук.

— Я восьмы раз прымаю ўдзел у конкурсе і многа разоў атрымлівала ўзнагароды. Матывы бяру з кніжак або прыдумваю. Каб вышыць карціну, трэба многа папрацаваць і быць цярплівым. З маладосці я вышывала, але раней было менш часу. Цяпер магу вышываць даволі, — гаварыла **Галіна Бірыцкая** з Плянты. — Тут на выстаўцы ёсць розныя мае працы, але вылучэнне атрымала я за вышываную ікону з Хрыстом.

— Нараўчанская зямля плённая ў народных творцаў. Галіна Бірыцкая прэзентуе тут свае працы. Вядомая яна з-за сваіх ручнікоў, вышываных карцін і ікон. Малгажата Краўчык таксама прывозіць сюды свае работы з нашымі даўнімі ўзорамі. Сваё рукадзелле на агляд заявілі таксама іншыя нашыя творцы, — сказала старшы інструктар Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы **Кацярына Бляўская**.

Хрысцінія Русачык з Нарвы — шматгадовая ўдзельніца і лаўрэатка гайнаўскага конкурсу. Яна з маладосці вышывала, гафтавала, рабіла на прутках. Выканала больш за сто прац. Сёлета не прыехала на падвядзенне вынікаў агляду, бо ў апошнім тыдні перад Вялікаднем малілася на Святой Зямлі. Вельмі прыгожа прэзэнтаваліся сурвэткі выкананыя Вольгай Давідзюк і Янінай Плевай (атрымалі вылучэнні). Узнагароды ў катэгорыі карункі атрымалі Анна Лук'янюк з Чаромхі, Хрысцінія Грыгарук з Орлі і Эва Кавальская, а вылучэнне атрымала яшчэ Галіна Баравік.

— Няма чым займацца дома, то працую з кручком і раблю сурвэткі. Карыстаюся старымі ўзорамі, новыя ўзоры прыдумваю або ў кніжцы падгляну. Раблю яшчэ на прутках, хаця мне ўжо пад 85 гадоў, — сказала **Анна Лук'янюк**.

На карцінах можна было ўбачыць краявіды, партрэты, на гафтаваных іконах — выявы Хрыста, Божай Маці і святых, на вышываных работах — старыя матывы з птушкамі і расліннымі ўзорамі.

— Адна ікона так дасканалая, што, здаецца, яна напісана ў адпаведнасці з канонамі іканапісу і толькі зблізку можна заўважыць, што яна вышываная, — заявіла **Анна Харытанюк**, лаўрэатка ўзнагароды ў катэгорыі іншых тэхнік. — З Захаду прыйшла да нас мода выконваць біжутэрыю суташ. Зараз яна вельмі прызнаная ў Расіі. Гэта мастацтва і практычныя аздабленні. Я люблю выконваць біжутэрыю суташ, але яна патрабуе цярплівасці і многа часу, але мяне захапляе рэзультат работы. Мой дзядуля Віктар Валкавіцкі з Рудутаў займаўся рамяством, якое патрабавала яшчэ большай дакладнасці і вялікіх умеласцей. Ён выконваў скрыпкі і добра іграў на іх. Я прыглядалася яго працы і вучылася цярплівасці.

Іншая лаўрэатка ўзнагароды ў катэгорыі іншых тэхнік Ірэна Харытанюк зрабіла прыгожыя аздабленні з выкарыстаннем пацеркавага гафту. Пакарысталася яна некаторымі матывамі з мінулага. У гэтай катэгорыі была яшчэ ўзнагароджана Уршуля Вэрашчынская.

У катэгорыі асоб з абмежаванымі магчымасцямі ўзнагароджаны былі Міраслаў Данілюк, Ірэна Краська і Збігнеў Гжыбоўскі з Майстэрні працатэрапіі і Павятовага асяродка сацыяльнай даспамогі ў Гайнаўцы.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**



У Лондане на 89-м годзе жыцця памёр уніяцкі святар, апостальскі візітатар для беларусаў-каталікоў у замежжы **АЛЯКСАНДР НАДСАН**.

Аляксандр Надсан нарадзіўся 8 жніўня 1926 года ў Нясвіжскім раёне. Ваяваў у арміі Андэрса, якая была ў складзе Брытанскіх узброеных сіл. У Вялікабрытаніі — з 1946 года, быў адным з заснавальнікаў Згуртавання беларусаў Вялікабрытаніі. Айцец Аляксандр Надсан — аўтар некалькіх кніг па гісторыі Беларусі, быў кіраўніком Беларускай бібліятэкі і музея імя Скарыны ў Лондане, старшынёй Камітэта дапамогі ахвярам Чарнобыльскай катастрофы.

Айцец Аляксандр Надсан з пачатку 80-х гадоў мінулага стагоддзя доўгі час заставаўся адзіным беларускім грэка-каталіцкім святаром у беларускай каталіцкай місіі ў Вялікабрытаніі. Ягоны папярэднік біскуп Чэслаў Сіповіч памёр у 1981 м годзе.

Ён пераклаў з грэчаскай і славянскай моў на беларускую значную частку корпуса ўсходніх літургічных тэкстаў. Аўтар больш за 250 навуковых публікацый, кніг па гісторыі Беларусі і гісторыі беларускага хрысціянства XX ст., малітоўніка «Госпаду памолімся» (2002), які з'яўляецца афіцыйным тэкстам набажэнстваў Беларускай грэка-каталіцкай царквы. Аляксандр Надсан вызначыў год выдання «Малой падарожнай кніжкі» Скарыны (1522), а таксама расчытаў і ўвёў у навуковы ўжытак аль-кітабы беларускіх татараў.

* * * * * * * * * * * * * *

## Памяці Уладзіміра Юзвюка

Мы, Дружа мілы, аднагодкі.
Жылося нам зусім няпроста.
Думаў, што ў беластоцкіх Сподках
Стрэнем мы год мой дзевяносты.

Ты цяжка захварэў, Валодзя,
Спыніла смерць жыцця турботы.
Ад нас ты раптам адыходзіш
Туды, адкуль няма звароту.

Мы працавалі безустанку
На беларускай ніве штодня.
Ты пераняў па мне дзялянку
Культурнай дзейнасці народнай.

Нам працавалася цікава,
Бралі цяжар на свае плечы.
Ты запрашаў мяне з Варшавы
На паэтычныя сустрэчы.

Усё прайшло ўжо беззваротна.
Ты, людзі кажуць, ужо дома.
Усе мы на зямлі смяротны,
Добра, што час той невядомы.

Спі, спі спакойна, Дружа мілы,
Такі зямны лёс чалавечы.
Хай пухам станецца магіла,
Хай мае Бог Цябе ў апецы.

**Віктар ШВЕД**



Дагмара Віданавянка з «ваўчком» і Анна «Варт'я» Яжомбская ў начным белавежскім аўтобусе



Анна «Варт'я» і воўк

# ПАННЫ з Белавежжа

Белавеж вабіць. Хто нарадзіўся тут і жыве, для яго гэта месца звычайнае. Дом. Хто жыве тут з выбару — для яго таксама стала прыродным домам. Хто хоча з яе выбрацца ў далёкі свет, хто вярнуцца на старасць... Хто вяртаецца ў квет маладосці, каб дакласці сваю кветку да пушчанскага разнатраўнага букета?

Ёсць ранневясенні вечар. У дарозе спатыкаю дзве белавежскія панны. Адна сапраўды падлетак, другая, хоць ёй ужо за трыццаць гадоў і абляцела ўжо пару месцаў — надалей з выгляду як тая ледзь апераная птушачка, што цікае сваю лясную песеньку. Другая — гэта Дагмара Віданавянка, сур'ёзная паланістка, якая вярнулася ў родную Белавеж і, калі схочаце, паводзе вас па родных сцежках. Як гід (10 гадоў), які раскажа пра пушчу. І прадставіць што новае ў яе фірме! Так, фірме, таму што заснавала яна мастацка-выдавецкую фірму «**Biała Wieża**», у плане якой вельмі шмат праектаў па прасоўванні белавежскай разнавіднай культуры. Выдала яна ўжо дзве кніжкі.

— Мая фірма займаецца выдаваннем кніжак, але і не толькі гэтым, — кажа Дагмара на сустрэчы ў Беларускім музеі ў Гайнаўцы, куды прывезла сваё выданне (другое выданне «Даліны» з фільмам) на прамоцыю ў цыкле «Напісана кірыліцай». — «Бяла Вежа» дзейнічае ад нядаўна. Першыя кнігі выйшлі ў снежні мінулага года. Першая «Даліна. З-над Нарвы і Свіслачы», другі выпуск выдання «Нівы» і Радыё Рацыя, да якога мы далучылі дыск з фільмам з ваколіц ад Сакольшчыны да Гайнаўшчыны. А другое — гэты «малыш», пра пушчанскія дрэвы, якія я зрабіла як дадатак для адукацыйных заняткаў пра Белавежскую пушчу, якія вядзем з дзецьмі. Другая кніжка — «Ваўчок-Маўчок». Гэта кніжачка аб незвычайным сяброўстве Малой Дзяўчынкі і Ваўчка, напісаная Багданам Дудко. Гэта казка, крыху легенда, але аснаваная на сапраўднай гісторыі, якая калісь здарылася на ўскраіне Белавежскай пушчы ў даліне Нарвы, над рэчачкай Пшчолкай. Малая дзяўчынка жыве толькі з бацькамі ў пушчанскай гушчы, здалёк ад людзей. Малы Ваўчок, які страціў усю сям'ю, адзінокі, разгублены, блукае па лясах і багнах. Аднойчы яны сустракаюцца. Дзяўчынка адразу адорвае яго сімпатыяй, воўк спачатку не давярае ёй, з часам стануць сябрамі. Гэта кніжачка для дзяцей, але і для дарослых. Пакахайце ваўкоў, гэта цудоўныя звяры, не бойцеся іх. Гэта яны больш баяцца нас. І гэта няпраўда, што воўк з'еў Чырвоную Шапачку і яе бабулю. Пісаў пра кніжку Лех Вільчэк, белавежац з выбару, пісьменнік, мастак і любіцель прыроды: «Гэта вельмі карысная, прыгожа ілюстраваная кніжачка. Вучыць пашаны і талерантнасці ў адносінах да іншых жыхароў Зямлі. Не толькі мы, але і ваўкі думаюць, перажываюць, клапоцяцца пра сваіх дзяцей». Думаю, як выдавец, далей ісці ў гэтым напрамку — паказвання каштоўнасцей нашага рэгіёна, і падляшскай прыроды, у тым ліку Белавежскай пушчы, і адукацыі дзяцей дзеля таго, каб пазнавалі вядомых і невядомых звяроў, таксама розныя культуры, як калісь выглядалі гэтыя месцы і што робіцца ў гэтым плане цяпер. Будзем выдаваць чарговыя кніжкі, і для дарослых, і для дзяцей, паказваючы красу гэтага месца і людзей, якія трываюць у вечным сутыкненні з прыродай...

З другой паннай з Белавежжа, вучаніцай Ляснога тэхнікума, можаце сустрэцца на ўсіх белавежскіх мерапрыемствах — сярод спевакоў, у кавярні-клубе «Валізка», на фэсце «Вяртэп»... Я сустракаю яе ў начным аўтобусе ў Белавежу. Гэта Анна «Варт'я» Яжомбская, дзевятнаццацігадовая родам з мазурскай вёскі Кіева, якая зведала ўжо паўсвету. З ліцэя ў Элку перайшла ў Белавежскі тэхнікум, які раней кончыў яе бацька-падарожнік (загінуў у Нямеччыне). Аня ў красамоўніцкім змаганні ў агульнапольскім конкурсе «Баюны з лясной паляны» ў Галухове заняла другое месца, прадстаўляючы легенду «Амарок — дух ваўка». Прымае яна ўдзел і ў праекце «Казкі народаў Зямлі» рэалізаваным «Валізкай»...

— Прымае ў ім удзел таксама мая духовая сястра Магда Палькоўская, заснавальніца праекта «Казкі народаў Зямлі: Тэатр Старадаўняга мастацтва апавядання», родам з Гданьска, якая вучылася на факультэце антрапалогіі і экалогіі ў Нью-Джэрзі і Каліфорніі, у ЗША, дзе жыла да 1991 года. Яна займаецца расказваннем гісторый народаў Амерыкі і Сібіры, дзе таксама жыла. І я гатова як заўсёды спакаваць свой рукзачок і рушыць у свет, дзе вольныя звяры і людзі. А найбольш кахаю і шкадую ваўкоў.

Анна Яжомбская запрашае да запаведніка жывёл і расказвае аб звычаях звяроў і іх пакутах, аб тым як звяры, якія жывуць у клетках, вечарамі адрэагоўваюць кантакт з людзьмі, плачучы і калечыўшыся. Аня, хаця яшчэ ліцэістка, вучылася ўжо ва Універсітэце Усходняй Фінляндыі (**UEF**), на якім ёсць тры факультэты: філасофскі, прыроды і лясной справы....

— Усе гэтыя справы спалучаюцца. Усе мы — дзеці Зямлі, — кажа Анна «Варт'я». — А ты чым займаешся? — пытаецца ў мяне. Мне здаецца, што ты, таксама з Белавежжа, не толькі журналістка. Ага, ведала — ты — звярыная знахарка!

**Міра ЛУКША**

# Па сцяжынках Уладзіміра Гайдука

15 красавіка гэтага года журналіст Беластоцкага тэлебачання Мікалай Ваўранюк і кінааператар Раман Васілюк прыехалі ў Нараўчанскую гміну (Гайнаўскі павет) з думкай зняць тэлесюжэт пра Уладзіміра Гайдука — памерлага ў 2012 годзе паэта з хутара Полымя каля вёскі Тарнопаль. Наведалі яны Яна Целушэцкага з Новага Ляўкова — земляка і сябру Валодзі. Ян ахвотна згадзіўся паехаць туды, дзе жыў, працаваў на гаспадарцы і пісаў многімі гадамі свае вершы паэт.

А Валодзя жыў на родным хутары звыш трыццаці гадоў адзін. Яго ўражлівая душа чэрпала натхненне з прыгажосці-характва навакольнай нічым не скажонай прыроды. З аднаго боку лес падыходзіў да агароду перад ягонай хатай, з другога — падступалі лугі. Вось радкі з яго верша: „Я з балотных, тарфяных крынічак // П'ю натхненне, на купіне лёгшы, // З багуноў і божых расічак // Пляту вянок прыгажосці".

Ян 19 верасня 2011 года (быў той дзень прыгожы сонечны) завёз яму некалькі экзэмпляраў ягонага паэтычнага зборніка „Полымя роднае", які толькі што быў выдадзены ў Беластоку. І быў ён апошнім выданнем, якое трымаў у сваіх руках тарнопальскі паэт (наступная кніжка „Дзівасіл" (недрукаваныя вершы, запісы) выйшла ў свет у 2013 годзе). Была гэта і апошняя сустрэча сяброў. На развітанне Валодзя падпісаў Яну свой зборнік вершаў: „Дарагому сябру з маладых гадоў Янку Целушэцкаму на добры ўспамін. Валодзя Гайдук, Полымя, 19.09. 2011 г.". Варта дадаць, што першую кніжку 30-гадовага Валодзі пад загалоўкам „Ракіта" выдала Галоўнае праўленне БГКТ у 1971 годзе (ён мне падпісаў яе — „земляку і прыяцелю на шчырую памяць"). Пабачылі свет яшчэ іншыя зборнікі вершаў, між іншым, „Блакітны вырай" і „Пах аернага хлеба".

І былі мы каля дома Валодзі Гайдука. Зараз у ім ніхто не жыве. Тут пуста і глуха. Толькі прырода прабудзілася да жыцця. Вясна ж. Дзень цёплы. Час ад часу выглядае з-за хмар сонейка. Пахадзілі мы сцяжынамі, па якіх не так даўно хадзіў пісьменнік. Ля дома з поўдня высяца вечназялёныя вострaверхія елкі. Ажылі мурашкі пад сасною. Зацвілі белым цветам анемоны (кураслепы). Паэт пісаў: „Панеслася рэха, зямлю ўскалыхнула. // Ідзе вясна-пацеха — // Моц свою пачула". У такім антуражы журналіст распытвае мяне пра Валодзю Гайдука і я ўспамінаю нашы сустрэчы і нашы размовы пра свежа напісаныя або ўжо апубліканыя вершы ды пра нашае жыццё-быццё.

Я высока цаню ягоную творчасць. Паэт піша пра тое, што перажыў, пра свой жыццёвы досвед, радасці і сум-тугу. Валодзя пакінуў у спадчыне прыгожыя вершы пра каханне (між іншым, „Жаданне", „Ой, няма як...", „Я не вінаваты...", „Танга", „Восень была...", „Колькі ў марах маіх...", „Адзінота раздзірае грудзі...", „Ноч спапяліла пажар вачэй...", „Песня", „Чарнавокай", „А сэрца птушкай у грудзях б'ецца...", „Жанчыне", „Дарагая мая!", „Зацьменне месяца" і „Я любіў цябе...".

З Тарнаполя паехалі мы на могілкі за вёскай Новае Ляўкова, дзе пакоіцца паэт Уладзімір Гайдук у магіле побач маці і бацькі. Прыгадваю радкі з яго вершаў: „Маё жыццё кароткім сном праходзіць" ды „З вяршынь жыцця мне смерць не страшна". Валодзя любіў кветкі і яны зараз упрыгожваюць яго магілу. Пухам табе зямля мой дарагі сябра.

**(яц)**







# ВЫВУЧАЕМ МОВЫ З МЭЦЬЮ ЮЛЬДЭНАМ

Калі думаеце, што ў сталым узросце вывучаць мову, у тым ліку блізкую нам, беларускую, запозна, вы сур'ёзна памыляецеся.

У рубрыцы асабліва рэкамендаваных гісторый англійскай газеты „The Independent" ад 20 студзеня г.г. апынуўся тэкст Джона-Эрыка Джордана пра сімпатычнага, маладога чалавека, які ў змозе пацвердзіць вышэйзгаданы тэзіс.

Вашай увазе прадстаўляю Мэцью Юлдэна з Манчэстэра, які свабодна размаўляе на дзевяці мовах і разумее больш за дзясятак, у тым ліку ўкраінскую. Ён вядомы як член шматлінгвістычнай эліты, якая свабодна карыстаецца шасцю і больш мовамі. Па адукацыі ён сацыялінгвіст, які прафесійна займаецца рэвіталізацыяй (ажыўленнем) меншасных моў. Пачуўшы яго плаўную гутарку з носьбітамі мовы (native spiker) на іх уласных мовах можна здагадацца, што ён больш чым паліглот. Прызнаецца, што авалодаў незвычайнай колькасцю моў, дзякуючы выкарыстанню ўсім нам характэрнай упартасці, энтузіязму і адкрытасці. Класічны паліглот гэта „über-nerd" (звышсярэдні маньяк), поўнаразмерны студэнт. Пра Мэцью гэтага не скажаш. Ён не ізалюецца ад наваколля, наадварот, кантактуецца з людзьмі з усяго свету. На яго думку, чым больш моў ужываеш, тым большай колькасцю пунктаў гледжання валодаеш. „Думаю, што кожная мова гэта канкрэтны, своеасаблівы светапогляд. Калі карыстаешся толькі адной, у цябе іншы спосаб аналізу і інтэрпрэтацыі свету чым у тых, хто ведаюць больш чым адну мову. Нават калі мовы вельмі блізкія сабе, напрыклад, іспанская і партугальская, якія да пэўнай ступені ўзаемна зразумелыя, яны адначасова з'яўляюцца двума іншымі светамі, двума іншымі спосабамі мыслення. Увайшоўшы ў смак шматмоўнасці, я ніколі не рашыўся б застацца аднамоўным, што літаральна абазначае адмаўленне ад магчымасці шматбаковага бачання свету. Не аднабаковага, а менавіта шматбаковага. Для мяне аднамоўе з'яўляецца самым журботным, адзінокім і самым нудным спосабам бачання свету. Гэта ж так карысна вывучаць мовы. Не ведаю ніводнай прычыны, якая б гэтаму супярэчыла".

Калі вы ўжо рашыліся пашырыць свой светапогляд, але не ведаеце з чаго пачаць, раю засвоіць 10 запаведзей Мэцью Юльдэна.

**1. Ведай навошта гэта робіш.**

Гучыць відавочна, але калі ў цябе няма добрай прычыны, каб вучыцца, шанц утрымання матывацыі памяншаецца. Нягледзячы на прычыны, калі ты рашыўся, мусіш уцягнуцца ў справу. Скажы сабе: я хачу навучыцца, таму як змагу буду працаваць на гэтай мове, з гэтай мовай і для гэтай мовы.

**2. Акуніся.**

Ты сабе абяцаў. Што далей? Мэцью прапануе падыход поўнага максімаліста — не важнае, якімі інструментамі навучання карыстаешся, асноўнае, практыкуй новую мову кожнага дня. Старайся паглынаць як мага найбольш з самага старту. Калі нечаму вучышся, зусім гэтаму аддайся і карыстайся на працягу дня. З цягам тыдня спрабуй думаць на гэтай мове, пісаць на гэтай мове і гаварыць да сябе на той жа мове. Справа ў тым, каб перакласці тое, чаму вучышся, на практыку — няхай гэта будзе пісанне э-мейлаў, размова з самім сабой, слуханне музыкі ці радыё. Акружэнне самога сябе, прысвячэнне цэлай увагі новай моўнай культуры надзвычай важнае. Лепшай узнагародай і матывацыяй да далейшай навукі з'яўляецца магчымасць правядзення нават самай простай размовы з кім-небудзь. Заўсёды старайся прыстасоўваць свой спосаб мыслення да спосабу мыслення на вывучанай мове. Вядома, не ўсе іспанскамоўныя ці старажытнаяўрэйскамоўныя думаюць аднолькава, але трэба карыстацца мовай як інструментам да пабудовы свайго ўласнага моўнага свету.

**3. Знайдзі сабе партнёра.**

Здаровае саперніцтва будзе добрым штуршком, каб крыху больш пастарацца і працягваць навуку. Мець з кім паразмаўляць гэта і сэнс, які змяшчаецца ў вывучэнні мовы.

**4. Карыстайся вывучанай мовай.**

Вучышся мове, каб ёю карыстацца. Кожнага дня заставайся творчым і практычным ці гэта пішучы песні, ці проста размаўляючы.

**5. Цешся.**

Якое-небудзь выкарыстанне новай мовы гэта творчы працэс. Прыдумай нейкія кайфовыя спосабы яе практыкавання: зрабі радыёперадачу з сябрам, комікс, напішы верш альбо папросту пагавары.

**6. Паводзь сябе як дзіця.**

Гэта не значыць, што ты павінен злавацца, ці забруджваць валасы ежай у рэстаране. Ты папросту вучышся як дзіця. Прынцып, паводле якога дзеткі лепш прыстасаваныя да вывучэння, чым дарослыя, гэта ўжо гісторыя. Новыя даследаванні не здолелі пацвердзіць ніякіх непасрэдных сувязей паміж узростам, а схільнасцю да навукі. Каб прысвойваць веды так хутка як дзіця, трэба папросту весці сябе як дзіця, значыць, не саромецца, мець ахвоту гуляць мовай і не баяцца памылак. Калі вучымся, робім іх шмат. У адрозненні ад дарослых, рабіць памылкі дзецям дазваляецца. Дарослы хутчэй скажа „не магу", чым „я яшчэ не навучыўся гэтаму" (не магу плаваць, вадзіць аўтамабіль, гаварыць па-іспанску). Няўдача ці змаганне дарослага ўспрымаецца грамадствам як табу. Калі ідзе пра вывучэнне мовы, прызнаць сябе ў няведанні ўсяго і пагадзіцца з гэтым гэта знайсці ключ да развіцця і свабоды.

**7. Зона камфорту.**

Згадзіцца на памылкі гэта згадзіцца патэнцыяльна папасці ў няёмкае становішча. Крыху страшнавата, але гэта адзіны спосаб на развіццё і паляпшэнне. Няважнае колькі вучышся, але ніколі не загаворыш на новай мове, пакуль не справішся з бояззю. Чым часцей будзеш гаварыць, тым больш камфортна сябе адчуеш у новых абставінах. Пачаткова будзеш змагацца з вымаўленнем, мабыць, граматыкай, сінтаксісам, незразуменнем усяго, што табе кажуць. Але асноўнае — развіваць адчуванне. Кожны носьбіт мовы адчувае вывучаную мову на свой спосаб. Зрабі яе сваёй уласнай.

**8. Слухай.**

Спачатку слухай, а потым гавары.Чым больш слухаеш, тым лепш гаворыш.

**9. Назірай за іншымі.**

Кожная мова мае свае патрабаванні ў тым як скласці язык, вусны ці горла. Вымаўленне аднолькавае як у фізічным, так і ў разумовым плане, таму глядзі на асобу, якая вымаўляе словы, слухай гукаў і старайся ўсё імітаваць як мага найлепш. Калі няма побач цябе носьбіта мовы, аглядай фільмы ці тэлеперадачы.

**10. (Прэмія) Расслабся!**

Нікому не надакучыш, кепска размаўляючы на яго мове. Калі пачнеш якую-небудзь камунікацыю з „я вучуся і хачу практыкавацца...", большасць людзей адплаціць табе цярплівасцю, падтрымкай і дапамогай.

Каб прадставіць вам Мэцью Юльдэна мне спатрэбілася веданне трох моў: англійскай, беларускай і ў меншай ступені польскай. Атрымалася сапраўдная гульня ў мовы — быццам па наказе ягоных запаведзей.

Вельмі хацелася б сустрэцца і пагутарыць з маладым вучоным. Дарэчы, цікава ці ў полі яго зацікаўлення знаходзіцца таксама беларуская мова?

Іаанна ЧАБАН

## Крыжы — помнікі культуры

— Ты бачыў, Валодзька, крыж каля кузаўскай царквы? — загаварыў сябрук з Рэпчычаў Грыша Янушык. — Не абы-які, жалезны, з арнаментам і паўмесяцам. Пэўна нейкі продак татарына там пахаваны... — Далей прыяцель тлумачыў: — Такіх крыжоў каля царквы больш было, але паступіў загад з Варшаўскай кансісторыі. Настаяцель Кляшчэлеўскай парафіі казаў паздымаць з крыжоў паўмесяцы. Жалезныя крыжы замянілі цэментнымі помнікамі. Такія тады рабіў у Кузаве Сцяпан Саласцюк. На гэтым, што захаваўся, паўмесяца не дазволіў зняць тадышні царкоўны староста Васіль Раманчук...

Паводле майго суразмоўцы, жалезныя крыжы з паўмесяцам захаваліся ў Грабаўцы, што каля Дубічаў-Царкоўных, у Косьнай ды ў Мельніку. Абяцаў я прыяцелю пацікавіцца справай. Нагода трапілася на Праваднуб нядзелю. Зрабіў здымак. На жаль, не змог я расчытаць надпісу, змешчанага ніжэй, на цэментным пастаменце. Натура дапусціла ў ходзе гадоў знішчэння. Нельга затым устанавіць фундатара і часу ўзвядзення помніка. А вось, што прачытаў я на гэтую тэму на сайце Падляшскага музея ў Беластоку ў рубрыцы «Крыж кавальскі на Падляшшы — твор народнага мастацтва і яго ахова»: «У паўночна-ўсходняй Польшчы традыцыя ўпрыгожвання каванымі крыжыкамі прыдарожных крыжоў і каплічак сягае XVIII стагоддзя. Аднак большасць тых, якія захаваліся, была ўзведзена ў апошніх дзесяцігоддзях XIX і на пачатку XX стагоддзя».

Значыць, што ў Кузаве каля царквы крыж з паўмесяцам не абазначае месца пахавання татарына, адно старажыла вёскі. А ўпрыгожанне крыжа арнаментам сведчыць аб майстэрстве мясцовых кавалёў.

Таму варта задбаць пра такія помнікі, бо ж гэта наша культурная спадчына. Яны не толькі ўпрыгожваюць падляшскі краявід, але і сведчаць пра рэлігійнасць мясцовых жыхароў. І гэтая ідэя вартая перайманння ў нашай рэчаіснасці.

**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**







Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Кніжка пра хваляванне і натхненне




Кніжка «Найлепшы спявак у свеце» быццам напісана для нашых дзяцей. Яна пра выступленні на сцэне і хваляванне. Той, хто выступаў на дэкламатарскім ці тэатральным конкурсе, добра памятае як ад хвалявання дрыжалі калені, як блыталіся словы і наогул... як у самы крытычны момант хацелася дзесьці ўцячы, схавацца, стаць нябачным. Такія хваляванні перажываюць не толькі ўдзельнікі конкурсу. Аказваецца, што для дзяцей важней за ацэнку журы меркаванне мамы і бацькі, бабулі і дзеда, брацікаі сястры, настаўніцы і класных сяброў.

Наш герой, першакласнік, вельмі любіў спяваць малодшаму брацiку. Брацiку, у сваю чаргу, вельмі падабалася слухаць песні «Дзед-барадзед», «Саўка ды Грышка», глядзець смешныя інсцэніроўкі з удзелам хатніх рэквізітаў, як коўдра. Малому было настолькі весела, што ён падскакваў на крэсле, а часам і качаўся ад смеху па зямлі. У хаце ўсё было спантанна, смешна, адважна. Аднак калі прыйшлося нашаму «хатняму спеваку» выступіць на школьнай сцэне, ён дзеравянеў ад хвалявання і забываўся мовы. Перашкоды множыліся як з рукава! У час свайго школьнага выступлення наш першакласнік перажыў процьму хваляванняў і жахаў, аднак у рэшце рэшт усё спрацавала... Як гэта атрымалася? Пра ўсё прачытаеце ў знакамітай кніжцы Ульфа Нільсана і Эвы Эрыксан «Найлепшы спявак у свеце». Нашы героі балдзеюць пры беларускіх песеньках дзякуючы перакладу (і адначасова ўдалай прамоцыі беларускіх дзіцячых шэдэўраў) Алесі Башарымавай. Кніжка выдадзена Саюзам беларускіх пісьменнікаў у 2014 годзе ў падсерыі «Каляровы ровар».

Нам прыемна, што ў якасці зорчыных узнагарод ужо чарговы раз можам прапанаваць найлепшыя беларускамоўныя кніжкі. Аўтары «Найлепшага спевака ў свеце» — Ульф Нільсан і Эва Эрыксан разам зрабілі цэлы шэраг дзіцячых кніжак з малюнкамі, якія сталі ў Швецыі, ды не толькі там, класікай.

**Зорка**

*Агнешка Петручук*
*I клас гімназіі ў Нарве*

### *Здароўе*

*Здароўе гэта тое...*
*што мы можам лёгка разбурыць.*
*Здароўе гэта самая*
*важная рэч у жыцці.*
*Дык цані здароўе, мой сябрук,*
*Бо без здароўя сумна і кепска.*
*Калі мы здаровы –*
*тады шчаслівыя!*
*Цудоўна сябе адчуваем!*
*Без здароўя няма жыцця.*
*Здароўе, як кветка ружы,*
*калі яе даглядаеш –*
*яна прыгожая.*
*Таксама ёсць са здароўем.*
*Калі пра яго дбаеш, даглядаеш,*
*тады яго атрымаеш.*
*А яно з гадамі рвецца,*
*пакідае нас*
*і чалавек памірае.*

# ВАРТА ВУЧЫЦЦА!

Кожнаму чалавеку прыемна, калі яго цяжкая і доўгая праца ацэненая належным чынам. У выпадку вучняў самай цяжкай працай з'яўляецца падрыхтоўка да прадметных конкурсаў.

Каб стаць лаўрэатам, вучню, настаўніку, а таксама і бацькам, трэба многа папрацаваць. На навуку трэба ахвяраваць свой свабодны час. Усё для таго, каб паехаць на конкурс, напісаць тэст і даказаць, што ў цябе сапраўды многа ведаў. А радасці ад поспехаў немагчыма апісаць. Гэтае пачуццё ведае кожны лаўрэат ці фіналіст, але таксама асобы, якія рыхтуюцца да конкурсаў. Іх веды застануцца ў іх галовах і ніхто іх не забярэ.

У гэтым годзе ў Гімназіі ў Нараўцы званне лаўрэата атрымала 6 вучаніц, а званне фіналіста — 2 вучняў.

Лаўрэаткі па беларускай мове гэта Уля Марчук, Вікторыя Барэчка, Магдаліна Бяляўская, Мая Радзіванюк, па польскай мове — Наталля Васько, а па біялогіі — Караліна Каравай. Фіналісты гэта Бартэк Ламашкевіч — па беларускай мове і Патрыцыя Бядрыцкая — па рускай мове.

На ўрачыстасці ўручэння пасведчанняў заўсёды прыўзняты настрой. У адзін дзень у адным месцы збіраюцца самыя здольныя і працавітыя гімназісты. Для настаўнікаў і бацькоў гэта гонар, а для вучняў — найлепшая ўзнагарода за працу.

Віншую ўсіх гімназістаў! А іншыя вучні няхай бачаць, што варта вучыцца.

**Наталля ВАСЬКО**
**Гімназія ў Нараўцы**




## Загадкі з роднай хаткі

## УВАГА КОНКУРС! № 17-15

**Сваіх дзетак
не гадуе,
усё жыццё
аб тым шкадуе.
Адна вякуе,
з тугі кукуе.
(З.....)**

**Пан у збан
палез нагой.
Ой!
Чуб чырвоны,
стан зялёны,
стаяў па пояс у вадзе.**

**У вадзе
не прападзе.
Цэлы тыдзень –
гэткі пан –
на стале
стаяў ц......**

**(Н. А. Сторажава)**

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 3 мая 2015 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**Адказ на загадкі № 12-15: васілёк, гром. Узнагароду, кніжку Найлепшы спявак у свеце, атрымаў Тымэк Петручук з Нарвы. Віншуем!**

# ЯК ХЛОПЧЫК ВЫРАТАВАЎ ГОРАД

*(кіргізская казка)*

Жыў-быў на свеце злы хан Джаныбек, а па-суседску — другі хан Саякбай. Джаныбек рашыў знішчыць суседняе ханства і акружыў яго горад. Саякбай сабраў дарадчыкаў, каб параіцца як ратаваць горад. Думалі яны, думалі — нічога не прыдумалі.

Раптам з'явіўся хлопчык у будзённай вопратцы.

— Табе што трэба? — спытаў хан Саякбай.

— Адпраўце мяне да хана Джаныбека.

— А чым ты, небарака, нам дапаможаш?

— У мяне ёсць план як выратаваць горад, — пачаў хлопчык. — Дайце мне толькі самага вялікага вярблюда і найстарэйшага казла.

Рада рашыла ажыццявіць план хлопчыка. Сеў ён на вярблюда і паехаў да Джаныбека. А казла прычапіў на вяроўку і пацягнуў за сабой.

Калі хлопчык трапіў на панадворак, яго сустрэў сам Джаныбек.

— Ты адкуль будзеш?

— З ханства Саякбая.

— Няўжо ў вашым царстве няма большага прадстаўніка? — спытаў іранічна Джаныбек. — А то ўжо падшпаркаў выпраўляюць!

Тады хлопчык саскочыў з вярблюда і кажа:

— Вялікі хан! Калі вам трэба размаўляць з самым найбольшым, тады паразмаўляйце з маім вярблюдам! Ён самы вялікі ў нашым горадзе.

Хан крыкнуў:

— Я пытаю ў цябе: няўжо ў вашай краіне няма сівавалосага мудраца?

— Хан, калі вы хочаце размаўляць з найстарэйшым і самым сівавабародым прадстаўніком, паразмаўляйце з маім казлом. Ён самы сівабароды ў нашым горадзе.

— Ты надта адважны, — пахваліў хлопчыка хан, — і вялікі разумнік. Я цябе ўзнагароджу. Скажы, што табе трэба, а выканаю тваё жаданне.

— Дай мне столькі зямлі, колькі памесціцца ў шкуры майго вярблюда, — сказаў хлопчык.

Хан даў згоду. Тады хлопчык забіў вярблюда, выразаў з яго шкуры тоненькія рамяні, павязаў іх у адзін доўгі рэмень і абвёў ім горад.

Такім чынам ён выратаваў свой родны горад.

***(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)***

На ўроку ў бельскай «тройцы»

Аляксандра РАМАНЮК
Грабоўка, ПШ імя Кірылы і Мяфодзія Беластоку

## Найлепшыя сяброўкі

*Найлепшыя сяброўкі*
*Дзіўныя, прыгожыя.*
*Любяць цябе.*
*І ніколі не пакінуць цябе ў бядзе.*

Якуб ГОЙКА
Тыльвіца, ПШ у Міхалове

## Вярблюд

*Ідзе і сапе,*
*Два гарбы нясе,*
*Цяжкае жыццё штодзень,*
*Ці ніхто яму не паможа...*

Дыяна ЮРЧУК
КШ № 3 у Гайнаўцы

## Сяброўка

Аня добра вучылася і ўсім дапамагала. Усе яе любілі.

Бацька Ані працаваў у Францыі, маці была беспрацоўнай. Гадавала малога Ярка.

Дзяўчынка запрашала аднакласніц да сябе. Паказвала заменныя кніжкі і частавала заменным шакаладам.

Бацька штокватальна прыязджаў да сям'і.

Так мы сябравалі з Аняй тры гады.

На заканчэнне трэцяга класа пачатковай школы Аня прыйшла вельмі сумная. Усе пыталіся аб прычыну яе смутку. Наша сяброўка пачала плакаць. Яе бацькі рашылі выехаць у Францыю назаўсёды.

— Мне будзе сумна і дрэнна без вас, — плачучы гаварыла Аня.

Мы таксама расплакаліся. Было нам горка.

— Думаю, Аня, што не забудзеш нас, — сказала на развітанне настаўніца. — Пішы нам!

— Буду вам пісаць, — абяцала Аня.

Ужо мінула два гады і ніякай весткі ад сяброўкі няма. Мы часта ўспамінаем яе і ўсё думаем: чаму яна нам не піша? Можа, ёй вельмі добра і не хоча нас ведаць? Можа, дрэнна, і не хоча нам аб гэтым расказаць?

Усе верым, што яе яшчэ сустрэнем і пагаворым аб мінулых гадах.

Вялікая шкода, што людзі ў пошуках лепшага жыцця едуць за мяжу.

## Вершы Віктара Шведа

### Чытаю вершы

Запыталі Любу:
— Ці ты вершы любіш?
— Не люблю, вядома.
Чытаю да стомы.

Чытаць я мушу штосьці,
Калі ў хаце госці.
З волі мамы быццам,
Каб гасцей пазбыцца.

### Лекар з рэцэптам

Тата лекар з сынам Янкам
Выбіраюць прагулянку.
Па дарозе за хвіліну
Абмінулі ўсе машыны.

Неўзабаве на маторы
Нехта іх дагнаў з дакорам.
— І вядома на астатак
Уручыў рэцэпт ён тату.

# Польска-беларуская крыжаванка

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

№ 17 - 15

Адказ на крыжаванку № 13:

Торт, вакал, наш, піражок, пралеска, баабаб, бот, акацыя, бал, вясна, рым. Пані, Карпатыя, Кашара, жаба, алах, кебаб, руб, цар, крылы, ліпа.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Ігар Кардаш** з Нарвы, **Уля Марчук, Наталля Лукша** з Нараўкі, **Аляксандра Буслоўская, Іаанна Рута, Тамаш Галёнка** з КШ № 3 у Гайнаўцы, **Вікторыя Гаць** з бельскай «тройкі», **Сара Скаўронская** з ПШ № 4 у Беластоку, **Малгажата Галёнка, Наталля Ніканюк** з Арэшкава. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Los / Pieczeń | | Hutor / Droga | | | |
| | | | Szlak / Miecz | | | | Rok | Dróżka | |
| | | Miód / Metoda | | | | | | | |
| | Wieczór | | | | | | No | | |
| Dużo / Pępek | | Trzcinka | | | | | | Jan | |
| | | | Szpulka | | | | Jak | | |
| | | | | | | | | | |

Барыс Руско

## Запісанае

У прасторы пушчы
палкі дубоў
што стаяць пакорна
у імгле ранняй
і пейзаж з ракою
у далоні лугоў
колерамі сонца высціланы
і песня, што льецца
з сэрца дамоў
яны ўва мне
як слова маткі
запісанае памяці пяром

## Пах зімы

Золак у снежных гарбах.
Белая прастора,
як малітва манаха.
Мароз абвінуў дзень у шэрань.
Зніч выразаны
ў глыбе лёду іскрыцца.
Хтосьці рукі грэе
над палаючай лучынай.
Пах зімы спакушае.

## Дрэва

Дрэва аглядае свет
праз зялёныя акуляры.
Гаворыць шэптам.
Баіцца агню і чалавека.
Не здолее бегчы.
Дрэва не грэшыць.
Яно святое.
Акунаецца ў малітве
існавання.

## Дрэва і зорка

Калі дрэва ўмірае,
моўкне зорка.
Зорка кранае,
галубіць,
пацяшае.
Калі дрэва цвіце,
зорка ўсміхаецца.
Суцеле насенню цёплую
пасцель.

## На Вуліцы

Калі іду Вуліцай
гэтай Вуліцай
Людзі маўчаць,
камяні гавораць
Чырвоныя
Прасякнутыя крывёю
Патокам крыві
Калі я на Вуліцы
на гэтай Вуліцы
Аглядаю панараму
барыкады,
снарады,
попел
І застылы крык
безыменных

## Лад

На цокале помніка
нуль і знак бясконцасці
Свет матэматыкі безаварыйны
Функцыі ведаюць сваё месца
Нябыт напоўнены падсцілкай
лікаў
І сусветы
І жыццё
Прастора вытанчаных паняццяў
Названае мае тут
сваё імя
і колер
і мелодыю
і слова
Свет глыбіні глыбінь
Помнік падперазаны стужкай думак

З польскай мовы пераклаў Віктар Швед

З гісторыі паўстання 1863-1864 гг.

# Валянцін Парчэўскі – прыхільнік партызанскай вайны

У шэрагу самых таленавітых паўстанцкіх камандзіраў 1863 года стаіць імя Валянціна Парчэўскага (1829-1869), кавалерыйскі атрад якога ўдала дзейнічаў у Мазавецкай і Калішскай губернях Каралеўства Польскага. Ён — прафесійны вайсковец, адданы ідэі партызанскай вайны, не адступаў ад яе і ўдала здзейсніў 22 напады на варожыя войскі. Вядомасць яму прынёс замах на камандуючага 10-тысячным гарнізонам Лодзі, калі ён на чале шасці паўстанцаў, абяззброіўшы варту, таемна пранік у горад і паспрабаваў застрэліць генерала Брэмсена, пакуль той спакойненька піў гарбату на балконе сваёй рэзідэнцыі. Брэмсен, адпомсціў спаленнем роднага маёнтка Парчэўскага і кінуў за краты яго брата.

На жаль, прозвішча Валянціна Парчэўскага, у адрозненні ад Рамана Рагінскага, мала вядомае на Беласточчыне, якая ў той час уваходзіла ў склад Гродзенскай губерні і адкуль пачаўся яго баявы шлях паўстанца. Менавіта тут ён спазнаў смак перамог на чале аднаго з першых, арганізаваных у краі яшчэ ў лютым 1863 года з ліку добраахвотнікаў атрада.

### Афіцэр прускай арміі

Валянцін Парчэўскі ў маладосці служыў у прускай арміі, у складзе якой у 1848 годзе ўдзельнічаў у баях з паўстанцамі Вялікапольшчы: у бітве пад Мілаславам ваяваў супраць роднага брата Францішка. З пачаткам паўстання 1863 года знаходзіўся ў Варшаве, дзе атрымаў загад узначаліць адзін з атрадаў у Бельскім уездзе Гродзенскай губерні:

„Цэнтральны Камітэт у якасці Часовага Нацыянальнага ўрада

Грамадзянін Валянцін Парчэўскі, былы афіцэр, неадкладна накіроўваецца да атрада, які пасля ганаровай бітвы пад Венгравам, перайшоўшы Буг, праз Сямятычы рухаецца ў Літву.

Камандзіру, кіруючаму сабранымі там нацыянальнымі сіламі, дадаць да іх баявога парадку Валянціна Парчэўскага і даручыць таму кіраўніцтва прызначаным атрадам.

13 лютага № 6106”.

### Рэжым тэрору

Парчэўскі накіроўваўся ў край, дзе панаваў рэжым тэрору, і таму зноў узняць яго на барацьбу было вельмі цяжка. Пасля паражэння ў бітве пад Сямятычамі (6-7 лютага 1863 года) яе пераможца, расійскі генерал Манюкін пісаў, што да яго пацягнуліся дэпутацыі ад мястэчак і вёсак Беласточчыны, якія «просили не жечь и не разорять их».

Улады нагняталі атмасферу страху. Вольна сябе не маглі адчуваць нават прадстаўнікі каталіцкага духавенства: у вёсцы Дзятлавічы аднаму з ксяндзоў, які падчас аблавы на яго кватэру пацягнуўся за пісталетам, адстрэлілі чатыры пальцы правай рукі.

Прыклад лёсу разбураных Сямятыч наводзіў страх на ўсю Беласточчыну. 9 лютага Манюкін звярнуўся да жыхароў горада Драгічына: «Жители Дрогичина! Вы слыхали, что сделалось с Семятичами: дома, откуда стреляли засевшие поляки, сожжены, и ветер погнал пламя по всему местечку. Если хотите испытать участь Семятич, — слушайтесь мятежников, и даю вам слово, — вы будете наказаны». Такія адозвы разляцеліся ва ўсе куткі Беласточчыны. Боязь за ўласнае жыццё і маёмасць стваралі спрыяльныя ўмовы для культывавання пачуцця варожасці да паўстанцаў. Гэта выкарыстоўваў Манюкін, які загадаў мясцовым жыхарам лавіць усіх, хто падазраецца ў датычнасці да паўстання: «Чрез несколько часов уже ко мне начали приводить из деревень связанных людей,



впрочем более запуганных и проклинающих панов и ксендзов, чем опасных».

### Арганізацыя атрада

Такімі былі ўмовы ў краі, куды накіроўваўся Парчэўскі. Ранкам 14 лютага ён быў ужо ў дарозе ў Бельскі ўезд, дзе, як занатаваў у сваіх успамінах, у прызначаным месцы, «сярод непраходных лясоў і пакрытых снегам пушчаў, я знайшоў атрад у некалькі дзясяткаў чалавек, напалову голых, бездапаможных, галодных, у асноўным складзены з прадстаўнікоў класа рамеснікаў».

У складаных умовах Валянцін, не губляючы ні хвіліны, заняўся арганізацыяй атрада: паўстанцы маршыравалі, з-за амаль поўнай адсутнасці зброі вучыліся біцца на палках, і дзякуючы засадам на дарогах адбіралі ў расейскіх салдат зброю і ежу. Такія напады аказаліся арганізаванымі настолькі паспяхова, што на працягу кароткага часу ўвесь атрад быў забяспечаны зброяй.

А вось з ежаю была сапраўдная праблема — адсутнічала соль. Раскошаю для паўстанцаў лічылася вячэра, складзеная з захопленых хлеба і чыстага тлушчу, ды пад запечаную сялянскую бульбачку.

### Прынцыпы партызанскай вайны

Парчэўскі разумеў усе абставіны і абмежаванні, у якіх прыходзілася арганізоўваць атрад. У сваёй працы ён кіраваўся дакументамі, атрыманымі ў Варшаве — «Інструкцыяй для ваяводскіх і уездных вайсковых начальнікаў» і «Інструкцыяй для фарміравання партызанскіх атрадаў конных стралкоў».

У іх выкладаліся ідэі партызанскай вайны. Аднак, на жаль, многія паўстанцкія камандзіры кіраваліся прыкладамі Лістападаўскага паўстання 1831 года, дзе ў асноўным ваявалі рэгулярныя вайсковыя адзінкі, а не атрады з ліку добраахвотнікаў-непрафесіяналаў.

Парчэўскі адразу ўсвядоміў галоўны прынцып партызанскай вайны: «Усе сродкі нішчэння варожых сіл добрыя і павінны быць выкарыстаны». Акрамя таго, у інструкцыях адзначалася:

— Атакаваць толькі тыя пункты, у якіх перамога над Масквою будзе бясспрэчнай, і таму спачатку патрэбна нападаць на слабыя пасты, нішчыць іх, адымаць зброю і накіроўвацца ў іншыя месцы;

— Нішчыць нават самыя дробныя атрады і нават асобных салдат; перахопліваць урадавых кур'ераў, перарываць і нішчыць паведамленні;

— Паўстанцкую прапаганду распаўсюджваць самым шырокім чынам, накіроўваючы яе, пераважна, у асяроддзе вясковых жыхароў і сялян, але ні пад якім выглядам не адбіваць жаданне і не раздражняць іх гвалтам і дрэнным абыходжаннем з імі;

— Атрад партызанаў павінен быць ужываны толькі ў межах сваёй акругі для трывожання праціўніка, для прадухілення падвозу яго правіянту, для знішчэння малых каманд, лоўлі кур'ераў і шпіёнаў, для знішчэння сродкаў паведамлення і тэлеграфаў, для збірання сведчанняў пра месцы знаходжання і руху праціўніка, служэння ў якасці праваднікоў для паўстанцкіх войск у межах акругі, назірання над грамадскаю бяспекаю, у выпадку патрэбы аказваць дапамогу грамадзянскім уладам;

— На выбар людзей у гэтыя атрады варта звярнуць асаблівую ўвагу і выбіраць людзей толькі маладых, прадпрымальных, моцных, цвярозых, вядомых добрымі паводзінамі, добрых стралкоў і коннікаў. Ні пад якім выглядам не прымаць людзей сумнеўнай маралі і п'яніц;

— Атрад партызан павінен складацца з аднаго плутона, ці 28 чалавек, у тым ліку аднаго афіцэра, трох унтэр-афіцэраў і 24 шэраговых.

### Цяжкае раненне

1 сакавіка ў Сакольскім уездзе атрад Парчэўскага ў ваколіцах Супраслі зрабіў засаду, у якую патрапіў расейскі абоз. Ахова з ліку казакаў не чакала нападу побач з мястэчкам і разбеглася, пакінуўшы ляжаць на дарозе 8 забітых.

У хуткім часе пасля гэтага каля вёскі Чорнае Сяло ў двух дзясятках кіламетраў ад Беластока Парчэўскі здзейсніў напад на калону вайсковай інваліднай каманды. Аднак тая была падрыхтаваная да сустрэчы, паколькі ведала пра нядаўнюю засаду пад Супраслю.

У баі Парчэўскі быў паранены ўдарам штыка ў левы бок. Плямы чырвонай крыві на белым снезе. Нягледзячы на рану, Валянцін працягнуў бой, у якім паўстанцы захапілі 40 ружжаў.

Але пасля злёг. Свайго камандзіра з месца на месца паўстанцы пераносілі на ўласных плашчах. Хадзіць Парчэўскі ўжо не мог. Рана пачала гнаіцца, яго ахапіла гарачка. У атрад даставілі доктара, які паведаміў: некалькі дзён — і зімовы лес назаўсёды зробіцца прытулкам Парчэўскага. Валянцін вымушаны быў распусціць атрад, а сам застаўся лячыцца ў сялянскай хаце. Як толькі адчуў, што можа ўстаць на ногі, апрануў сялянскі кажух і рушыў у дарогу. Любому са шматлікіх патрулёў, якія яго запынялі было дастаткова зазірнуць пад кажух, каб убачыць чырвоную пляму на світцы. Аднак Парчэўскі здолеў дабрацца да Вільні, дзе яго і выхадзілі жанчыны ў жалобным чорным адзенні.

### Далейшы лёс

Па выздараўленні ён адправіўся да родных, што жылі ў ваколіцах Гродна. Тут Валянцін Парчэўскі даведваецца пра стварэнне пад Калішам кавалерыйскага атрада, куды і выязджае, каб упісаць сваё імя ў лік герояў 1863 года, выкарыстаўшы вопыт, атрыманы ў баях супраць расійскіх войск на Беласточчыне.

Пасля відавочнага паражэння паўстання, у снежні ён эмігруе ў Прусію, а адтуль у Швейцарыю. У 1866 годзе адпраўляецца ў Геную, а затым у Турын, каб далучыцца да італьянскага добраахвотніцкага корпуса, змагаецца супраць Аўстрыі за незалежнасць Італіі. Незадоўга да ўласнай смерці Валянцін Парчэўскі вярнуўся на Радзіму. Яго не стала 16 красавіка 1869 года ва ўзросце 40 гадоў.

Васіль ГЕРАСІМЧЫК



Вольга Скварцова ў час майстар-класаў

# Вяртанне да перапыненай эвалюцыі

**Беласток на працягу некалькіх дзён стаў месцам сустрэчы мастакоў, якія працуюць у сучасным танцы. Гэта адбылося ў кантэксце дванаццатага выпуску фестывалю «Калейдаскоп», які ў гэтым годзе праходзіў пад лозунгам «Новы стыль». У ходзе сустрэчы дайшло да абмену рознымі поглядамі і эстэтыкамі шляхам прадстаўлення спектакляў з паўночна-ўсходняй Еўропы, у тым ліку з Беларусі. Вярнуліся да ідэі міжнароднага фестывалю, на гэты раз з мэтай агляду прац мастакоў з суседніх краін, прытым прысвячаючы значнае месца Беларусі. Можна было паглядзець на танец і паслухаць аб ім у больш шырокім еўрапейскім кантэксце, аб пошуку свайго ўласнага «я» расказалі ў спектаклі выдатныя танцоркі і харэографкі з Мінска Ганна Карзюк і Вольга Скварцова, якая таксама вяла майстар-класы, адкрытыя для беластачан.**

На працягу чатырохдзённага фестывалю (9-12 красавіка) прадстаўлены былі чатырнаццаць спектакляў, якія падымалі тэму ідэнтычнасці разуметай — як напісалі арганізатары, галоўным чынам Польская асацыяцыя танца — як «спляценне памяці, канкрэтнай геаграфічнай прасторы і цела». Апрача танцораў з Беларусі і Польшчы выступілі мастакі танца з Літвы і Украіны. Таксама дыскутавалі на тэму сучаснага танца ў краінах, у якіх яго эстэтыка свабодна пачала развівацца пасля 1989 года, хоць спробы яго перасадзіць з заходняй еўрапейскай культуры з'яўляліся і раней. У панэльнай дыскусіі «Перыферыі танца ў роднай Еўропе», якая суправаджала паказы фестывалю, адпраўной кропкай для спрэчак стала ідэя ўспомненая ў апублікаванай летась кнізе «Танец у Еўропе пасля 1989 года», у якой больш дзясятка аўтараў з розных краін Усходняй Еўропы тлумачыць і параўноўвае свой айчынны танец з сучасным «прататыпам» з Заходняй Еўропы, мадэльнай уявай сучаснага танца.

— Мы ў кнізе хацелі паказаць, што некаторыя асаблівасці танца з'яўляюцца ўнікальнымі і не толькі належаць да заходнееўрапейскай культуры, паказаць, што Еўропа ёсць і ў іншых месцах, не толькі геаграфічна. У краінах Заходняй Еўропы, калі паяўляецца танцор з Балгарыі ці Беларусі, ніхто не ведае, адкуль яны ўзяліся, якія карані яго танца. Не хапіла ў кнізе ўсіх краін, якія павінны быць (не ўключана м.інш. Беларусь — М. Х.), але расказаны ў ёй таксама агульныя працэсы, якія тычацца таксама іх, у тым ліку грамадска-палітычныя, напрыклад, як у Сербіі, — расказвала ў час дыскусіі **Іаанна Шамайда**, тэарэтык і крытык танца, намесніца дырэктара Інстытута музыкі і танца, створанага больш за чатыры гады таму міністрам культуры і нацыянальнай спадчыны.

Ішла гаворка пра тое, ці ва ўсіх постсавецкіх краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы 1989 год быў прарывам і ў галіне танца. Крытык і тэарэтык танца **Юлія Гочык** з Інстытута музыкі і танца:

— У 1989 годзе ў гэтых краінах не наступіла хуткае змяненне эстэтыкі, але з'явіліся новыя арганізацыйныя магчымасці. Адкрыццё межаў было адным з самых моцных фактараў змен таксама ў танцы.

Вядучая сустрэчу **Ганна Круліца**, крытык, гісторык, тэарэтык і куратарка танца ды іншыя ўдзельнікі дыскусіі адзначылі:

— Стваральнікі танца з Усходняй Еўропы па-ранейшаму адштурхоўваюцца ў Заходняй Еўропе на другі план. Калі ў Заходнюю Еўропу ў найбліжэйшай будучыні прыйдзе новая энергія, дык хутчэй з Азіі, напрыклад, з Кітая. Не толькі тамашні тэхнічны перфекцыянізм з'яўляецца прывабным, але і духоўнасць.

Спецыяльная сустрэча была прысвечана сучаснаму танцу ў Беларусі. Распавядала аб ім **Святлана Уляноўская**, танцавальны і балетны крытык, педагог, даследчык сучаснага танца, рэдактар партала Art Актывіст / Тэатр. Раней, у ходзе сумеснага абмеркавання, падкрэсліла:

— 1980-ыя гады гэта бум для Беларусі, калі справа ў з'яўленні эксперыментальных груп сучаснага танца, пантамімы, тэатра жэсту. Сёння большасць груп сучаснага танца працуе пры тэатрах, напрыклад у Гродне (камерная група танца і перформенсу «Галерэя», заснавана ў 1994 годзе, з 1996 года працуе пры гродзенскім Драматычным тэатры — М. Х.) ці Віцебску або мацуецца ў прыватным парадку.

Падчас даклада «Беларускі сучасны танец: з'ява ці мастацтва адзіночкі» адзначыла ў самым пачатку:

— Сучасны танец у Беларусі з'яўляецца маргінальнай з'явай, перыферычнай з пункту гледжання афіцыйнай культуры. Першым пакаленнем сучаснага танца былі энтузіясты-адзіночкі. Гэта з'ява паявілася ў нас у эпоху перабудовы і не ўпісвалася ў дзве асноўныя тэндэнцыі падтрымліваныя дзяржавай: акадэмічнага балета і народнага танца. Працяглая ізаляцыя ад сусветных культурных працэсаў спрычынілася да таго, што мы ў іх не ўдзельнічалі, а затым пачалі прыручаць разнастайныя стылі паралельна, без праходжання гэтага працэсу. Толькі ў 1990-я гады з'явіліся ў нас у больш агульным ужытку слова «мадэрн» і тая стылістыка, калі за нашай заходняй мяжой нават постмадэрнізм ужо скончыўся.

Па словах Святланы Уляноўскай, карані гэтак званага сучаснага танца, мадэрн, сягаюць, аднак, у Беларусі першых двух дзесяцігоддзяў XX стагоддзя і «віцебскага рэнесансу», якога флагманнай праявай быў «супрэматычны балет» Ніны Коган з дэкарацыяй і касцюмамі Казіміра Малевіча, прэм'ера якога (адзін паказ) адбылася ў 1920 г.:

— На першым плане была геаметрыя прасторы і ўпісаная ў яе пластычнасць руху. Не было працягу гэтай наватарскай з'явы. У гэтым кончыўся эксперыментальны перыяд у танцы ў Беларусі. Эвалюцыя была перапыненая. Нагадалі сабе пра яе толькі цяпер. Спаслалася на яе Анастасія Махава (у 1996 годзе ў Віцебску стварыла студыю сучаснага танца «Паралелі» — М. Х.). У агульнай складанасці, наступны перыяд эвалюцыі сучаснага танца пачаўся толькі ў 1980-я гады. Найстарэйшы гэтага тыпу тэатр танца ў Беларусі быў створаны ў 1971 годзе — «Рух» Уладзіміра Колесава і больш не існуе, а затым «Жэст», які ў цяперашні час функцыянуе як «ІнЖэст» Вячаслава Іназемцава. Ад тых гадоў дзейнасць многіх гуртоў не апісана, няма яе працягу ці мастакі з'ехалі за мяжу.

Абмяркоўваючы важнасць гэтых мастацкіх з'яў, якія адбыліся ў Беларусі з 1980-х гадоў, яна ўспомніла, у прыватнасці, стварэнне ў 1986 годзе кампазітаркай, харэографкай і рэжысёркай Ларысай Сіняковіч Фольк-Тэатра «Госціца»; у студзені яна не выключыла заканчэння дзейнасці групы, хоць асобныя праекты, верагодна, будуць працягвацца (гэты калектыў 10 гадоў таму быў пазбаўлены пастаяннага месца дзейнасці). «Госціца» спалучае ў сабе фольк з вельмі асабістым падыходам з авангарднымі плынямі харэаграфіі. Мінская крытык згадала пра першы фестываль сучаснага танца ў Беларусі, першы выпуск якога адбыўся ў 1987 годзе ў Віцебску (арганізуецца надалей), і гэта быў першы такі фестываль у постсавецкай прасторы. Да 2013 года там не было іншага такога тыпу агляду, да моманту арганізавання Вячаславам Іназемцавым у Мінску фестывалю «Пластформа». У 1990-я гады паявіліся — на яе думку — цікавыя групы сучаснай харэаграфіі ў Гродне: «ТАД» Дзмітрыя Каракулёва і тэатр танца «Галерэя» Аляксандра Цебянькова, а ў Гомелі група «Quadro»:

— Характэрна, што гэтыя цікавыя танцавальныя групы былі сфармаваныя тады далёка ад сталіцы, ад дыктату акадэмічнага танца.

У наступныя гады, аднак, і ў Мінску сталі дзейнічаць цікавыя групы, як тэатр танца «Каракулі» ці «D.O.Z.SK.I» Вольгі Скварцовай (таксама акцёркі тэатра імя Янкі Купалы), якая ў цяперашні час функцыянуе як «Skvo's Dance Company»:

— Вольга Скварцова як першая ў Беларусі практыкуе тэму жаночай ідэнтычнасці, сноў, фантазій і жаночай прыроды. Не дакранаецца да палітычнага кантэксту, але сканцэнтравана яна выключна на мастацтве.

На іншым мастацкім полюсе танцавальнай сцэны, якая ўтварылася пасля буму 1980-х гадоў (без пастаяннай сядзібы) — «Карняг тэатр». Яго стваральнік Яўген Карняг выкарыстоўвае кожную форму руху і пластыкі цела да прыняцця пытанняў, звязаных з абортамі, анарэксіяй, мужчынскай ідэнтычнасцю, адносінамі асобы і дзяржаўнай сістэмы, гвалтам над асобай... Гледзячы на сітуацыю сучаснага танца ў Беларусі, несумненна, важнае значэнне мае факт стварэння ў мінулым годзе ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтва новай спецыяльнасці «сучасны танец».

Фестываль «Калейдаскоп» з'яўляецца, перш за ўсё, спектаклямі танца. У гэтым годзе ў конкурсе можна было даведацца, у прыватнасці, аб пытаннях, звязаных з агульнай еўрапейскай ідэнтычнасцю ці, як было ў выпадку тэатра «Rozbark» з горада Бытама, спасылкай на пераўтварэнні, якія адбыліся ў Расіі і краінах Усходняга блока. Іншы спектакль — з бачным уплывам ізраільскага танца — натхнёны быў мовай руху Га-Га. Спектакль аб адкрыванні складанасцей чалавечай прыроды прадстаўляў літоўскі Arts Printing House, а ўкраінскія выканаўцы Антон Аўчыннікаў і Антон Сафонаў закранулі праблему стварання чалавека сучаснымі СМІ і незалежнасці ад іх. На фестывалі былі таксама танцоры з Беластока (спектакль Караліны Гарбацік). Беларускія мастачкі Вольга Скварцова і Ганна Карзюк у сваім выступе паставілі пытанне пра ўспрыманне самога сябе і культурных паводзін. Пасля спектакля на сцэне актавай залы факультэта педагогікі і псіхалогіі Універсітэта ў Беластоку **Ганна Карзюк** у размове з «Нівай» ацэньвала сітуацыю сучаснага танца ў Беларусі з яе пункту гледжання:

— Асобы і групы, якія займаюцца танцам, не маюць падтрымкі з боку дзяржавы. Самае горшае ў тым, што няма нейкага адзінага цэнтра ў Беларусі, які б у арганізацыйным плане аб'ядноўваў усіх, што займаюцца сучасным мадэрным танцам. Такі цэнтр, які меў бы сцэну спецыяльную для сучаснага танца: для выступаў, спектакляў, перформенсу, выстаў і г.д. Аднак, ёсць і станоўчыя тэндэнцыі, як функцыянаванне школы «Sky-Line Танцавальнай студыі» і калектыву сучаснага танца пры ёй. Яна аб'ядноўвае шэраг педагогаў, якія ўдзельнічаюць у сучасным танцы розных напрамкаў. Ёсць некалькі іншых падобных прыватных школ.

**Вольга Скварцова**:

— Ідэя складаецца ў тым, каб цэнтр сучаснага танца дзейнічаў афіцыйна і з дапамогай дзяржавы. Мне здаецца, што пакуль гэта не ўяўляецца магчымым. Мабыць, праз пяць гадоў. Так, праз пяць гадоў. У мяне ёсць такое прадчуванне. Гэта залежыць ад нас, ад нашага пакалення. Што тычыцца будучыні беларускага сучаснага танца ў мастацкім сэнсе, думаю, што мы не павінны спыняцца на канцэптуальным танцы. Мы павінны імкнуцца да пошуку новых форм танца, а не засяроджвацца на канцэпцыі. Замоцна мы застраглі на канцэптуальным мастацтве. Гэта тупіковая сітуацыя. Трэба сучаснаму танцу ў нас вярнуць сэрца і здаровы экспрэсіянізм. Пост, пост, постмадэрнізм ужо ззаду нас. Ідэя складаецца ў тым, каб танцор застаўся танцорам з усёй яго цяласнасцю, каб шукаць цікавых кампазіцыйных рашэнняў.

**Ганна Карзюк**:

— Беларускі сучасны танец развіваецца інтуітыўна. Няма школы беларускага сучаснага танца, якая раўнялася б з развіццём танца ў Заходняй Еўропе. Адзінкі, як правіла, удзельнічаюць у майстар-класах за мяжой, і там развіваюцца. У выніку, ператвараецца гэта ў тэндэнцыю: беларускі сучасны танец уяўляе сабой асобы, асобныя індывідуальнасці, танцораў і калектывы. Добра было б неяк гэта аб'яднаць, хоць бы таму, каб беларускі сучасны танец мог быць ідэнтыфікаваным, паколькі мы лічым, што мы адрозніваемся, напрыклад, ад расійскага сучаснага танца, нават у манеры руху або выбары тэмы.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

Кулінарныя вандроўкі ў часе і прасторы

# Бутэрброд з яйкам


Колішняя школа ў Шудзялаве

На перадвелікодным тыдні ў крынскіх прадуктовых крамах чэргі быццам у васьмідзясятых гадах прошлага стагоддзя. Раскупляні амаль усё. „Самаабслугу" ачысцілі з маргарыну, а ў „Гарошку" не хапіла разынак. За прадуктамі вакол славутай круглай плошчы — гандлёвага цэнтра Крынак, бегалі ў асноўным жанчыны. Торбы поўныя, цяжкія, а аўтамабіль толькі адзін на ўсю сям'ю. Тыя, якім пашанцавала ў жыцці, маглі разлічваць на дапамогу ўласных дзяцей.

Пяцідзесяцігадовай Тарэсе перадсвяточная кулінарная гарачка ўжо не пагражае.

— Ці абавязкова з'есці тры разы больш, чым у звычайны дзень? Не люблю таўсцець і выкідаць ежу, таму спяку толькі адзін пірог.

На Вялікдзень рашыла яна падрыхтаваць салацік, фаршыраваныя яйкі і адну цёплую страву.

— Калісь шмат елі толькі арыстакраты, а я паходжу са звычайнай сям'і, — канстатуе Тарэса.

Дыетай малой Анны бацькі ніколі надта не пераймаліся. Яна нарадзілася ў 1969 годзе ў Слоі Шудзялаўскай гміны.

На сняданак было яйка альбо мачаны ў ім і смажаны чэрствы хлеб. Тады ў хлебе заставаўся яшчэ смак уцягнутага з патэльні тлушчу. Абед варылі з самой раніцы і елі яго цягам дня, як каму пасавала. Найчасцей бульбу і кусок мяса.

— Абсмажаць потым тую бульбу, пойдзеш, адламаеш кусок з патэльні, возьмеш у руку і пайшоў.

У нядзелю заўсёды стаўлялі ў печку два саганы: адзін з бульбай, другі з супам з кіслай капусты. Больш там ніхто нічога не варыў.

— Сёрбаеш тую капусту, каб бульбай не задавіцца.

Вячэралі заціркай альбо якім небудзь панцаком на малаку.

Цягам дня дзеці маглі перакусіць хлебам. Рэдка калі быў ён свежы. Раз на два тыдні пяклі сем бляхаў хлеба. Трымалі яго ў каморы ў дзяжы выкладзенай палатном. Зверху клалі драўляную накрыўку, каб мышы не паелі.

— Прагаладаюцца, урэжуць лусту сухога хлеба, вадой паліюць, цукрам пасыплюць і ўсё.

Хлеб палівалі таксама кіслай смятанай, калі была ў хаце, па верху сыпалі цукрам. Пад свята дзеткі падкрадаліся да тлушчу толькі што забітага вепрука. Быў ён прыпраўлены шкваркамі і смажанай цыбуляй. Смакаваў незвычайна. Стаяў у гліняных саганах у каморы, таму на Каляды замярзаў і трэба было скрэбці яго нажом. Вясной такі бутэрброд добра было з'есці з зялёнай цыбуляй.

У школьным годзе бутэрброд быў асноўнай стравай славянскіх дзетак. Каб паспець на ўрокі, з хаты выходзілі ўжо ў 6 гадзін раніцы, вярталіся пасля 16-й.

— Які там сняданак. Ледзь вочы адкрываліся. Думалі, як тут паспаць хаця б з хвілінку даўжэй.

Першыя два класы пачатковай школы канчалі ў Кнышэвічах. Пяцёра дзяцей у класе, усе аднолькавыя, гаспадарскія, добра ім было разам. Бяда пачалася з пераездам у Шудзялава, дзе вучыліся да шостага класа і ў Астравок у сёмы і восьмы класы. Цэлы дзень па-за хатай. Есці вельмі хацелася, а абедаў у школе ніхто не варыў. Слаянскія і кнышэвіцкія дзеці найчасцей бралі ў школу бутэрброды з абсмажаным на два бакі, каб не вылівалася, яйкам. „Канапку" абгортвалі ў газету „Грамада".

— Яшчэ якім маслам дзе памажаш, то і літары адаб'юцца.

У Шудзялаве ў кожным класе было па 30 вучняў.

— Мы ў валёнках пайшлі, думалі, што скінем галошы і капці будуць. А тут інтэлігенцыя. Папаплакалі мы ад сораму.

Сорамна было ім таксама выцягваць з торбаў вясковыя бутэрброды. Гэта было ў будынку старой царскай шудзялаўскай школы.

— Пойдзем на ганачак у раздзявальню, там не было акна, схаваемся ў вешалкі і ямо паціхеньку ў цемнаце. У цёплыя дні выходзілі на панадворак, альбо ў сенцы. Калісь мода была прасіць: „Дай грыза". А што ты дасі? З яйкам, ці, калі свежы хлеб, са свойскім маслам? Адзін хлопец з Сукавіч, здавалася, кожны дзень еў бутэрброд з адбіўной катлеткай. „Грызаў" чамусьці ніколі не раздаваў. І мы папрыходзім дахаты і плачам, што Марак кожны дзень катлеткі есць. А маці думае, няўжо яны так часта вепрукоў колюць, няўжо ж так ім добра жывецца. І мы неяк рассакрэцілі гэтыя катлеткі, якія аказаліся бульбянымі дранікамі. У Шудзялаве дзеці настаўнікаў ці паліцыянтаў нават агуркі вясной елі. Нам у галаву не прыходзіла, што ў сакавіку можна іх есці. Як разыдзецца пах на цэлы клас тым агурком і каўбасой... Вернемся дахаты з плачам і просім, каб больш тых яек у бутэрброд нам не пхалі. Маці, канешне, шкадавала, але гаварыла што спецыяльна за каўбасой цэлы дзень стаяць у Саколцы не будзе.

Хатняй, печанай у слоіках каўбасы на хлеб не пакладзеш, бо разлезецца. З бяды выратаваў Аню яе хрышчоны, які кожны тыдзень прыязджаў з Беластока дапамагаць у гаспадарцы. Цяпер вёз з сабой каўбасу, якую бацька Анны, з-за надзвычай шырокай кішкі, называў конскай.

— Так пахла, нават кускі мяса было відаць. Сёння ніякая каўбаса з ёю не зраўняецца. Цяпер нават такі пах не існуе.

Конскай каўбасы ніхто ў хаце не еў, усё аддавалі дзецям у школу.

З Кнышэвіч школьным аўтобусам даязджала на працу ў шудзялаўскую краму прадаўшчыца. Анна і яе сяброўкі зараз з ёю пасябравалі. Пасля ўрокаў, чакаючы транспарту, памагалі ёй у краме, разгружалі тавар, стаўлялі на паліцы, прыбіралі. Узамен за гэта не мусілі стаяць у чарзе, каб за 2 злоты набыць па чвэртачцы белага хлеба і тоўсты батон „кароўку". Хто меў больш грошай, браў бутэлечку аранжаду і, падзяліўшыся з сябрамі, запіваў, каб не задавіцца.

— Як мы цешыліся, што ў школе выняць з торбы не сорамна. Нам, гадаваным выключна на свойскім хлебе, белы з крамы лічыўся сапраўдным далікатэсам.

Такое гэта было харчаванне.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН




«Ніва» ўжо неаднойчы пісала пра сайты беларускіх дыяспар у цэлым свеце, у тым ліку і пра беларускія суполкі ў Латвіі. Апошнім разам у лютым 2015 года пра Саюз беларусаў Латвіі, сайт якога вызначаўся сваёй знешняй непрывабнасцю, што, як падавалася, выходзіла ад ідэйнай размытасці арганізацыі. Нагадаем, што ў свеце беларускія дыяспары падзяляюцца на дзве вялікія групы — пранацыянальныя і пралукашэнкаўскія. Саюз беларусаў Латвіі, у адрозненне ад Латвійскага таварыства беларускай культуры «Сьвітанак», належыць менавіта да апошніх. Але ў жыцці, як вядома, не ўсё бывае толькі чорным ці белым. У складзе Саюза дзейнічае Беларускае культурна-асветніцкае таварыства «Уздым», пра якое, гледзячы праз прызму яго сайта, і пойдзе размова.

Калі цікаўны карыстальнік інтэрнэту набярэ на сваім камп'ютары адрас **http://uzdim.lv**, то перад яго вачыма адкрыецца даволі прыгожы сайт, пра які ягоныя ўладальнікі — беларусы Латгаліі, якія жывуць у горадзе Даўгаўпілсе (колішнім Дзвінску), дбаюць належным чынам. На жаль, беларуская мова для іх, хоць немалаважная, але другасная, што, дарэчы, не дзіўна для арганізацыі, якая ўваходзіць у пралукашэнкаўскі Саюз беларусаў Латвіі. Так, першай моўнай версіяй, калі трапляеш на сайт, з'яўляецца руская. На беларускую трэба пераключыцца, клікнуўны на адпаведнае пазначэнне з правага боку.

У той жа час варта прызнаць, што беларуская версія сайта нічым не саступае рускай. І на ёй усё зроблена прывабна і выклікае жаданне больш дэталёва пазнаёміцца з суполкай, якая пазначае сабе як найвялікшая ў Латгаліі — 115 чалавек.

Усе выйсці на старонкі сайта месяцца ўверсе цэлага выяўлення, прычым практычна ў кожнай маюцца падрубрыкі, дзе сістэматызаваная інфармацыя па блізкіх тэмах. Прыемна бачыць, што справы ў таварыстве «Уздым» пастаўлены на сур'ёзную аснову. Так, у падрубрыцы «План працы» галоўнай старонкі мы знойдзем інфармацыю пра запланаваныя ў красавіку мерапрыемствы. Прычым там нават пазначаны адказныя за іх правядзенне.

Даволі часта абнаўляецца падрубрыка «Навіны». Хоць паведамленняў за красавік на момант напісання артыкула яшчэ не было, але сакавік для «Уздыму» быў вельмі насычаны падзеямі. Расповеды аб іх суправаджаюцца фотаздабленнем.

Падрабязныя звесткі пра таварыства мы знойдзем на старонцы «Пра нас». Адтуль мы даведаемся, што «Уздым» афіцыйна паўстаў у ліпені 1993 года як грамадская арганізацыя беларусаў Даўгаўпілса. «Мэта таварыства — садзеянне нацыянальнаму адраджэнню беларускай культуры, мовы, гістарычнай памяці, захоўванне і развіццё адукацыі. Дапамагаць аб'яднанню беларусаў, якія па розных прычынах і ў розны час пакінулі Радзіму.

Таварыства садзейнічае актыўнаму аб'яднанню беларусаў і ўмацаванню дружбы беларусаў і латышоў", — адзначаецца ў падрубрыцы «Гісторыя суполкі».

Згодна пададзенай на сайце інфармацыі рупліўцы «Уздыму» многа робяць для дасягнення вызначанай мэты — адзначаюць народныя святы, не забываюць навучаць беларускай мове моладзь, у цэлым прапагандуюць беларускую культуру. Прыкра адно — на сайце не ўбачыш бел-чырвона-белага сцяга і «Пагоні», а 25 Сакавіка — не свята для беларусаў Даўгаўпілса. Магчыма, гэтая акалічнасць з'яўляецца адваротным бокам шчыльнага супрацоўніцтва з консульствам Беларусі ў горадзе на берагах Даўгавы (Заходняй Дзвіны).

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

Дата з Календара Дата з Календара

Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара



Прамільгнуў на небасхіле

# 105 гадоў з дня гібелі Сяргея Палуяна

Беларускі літаратар Сяргей Палуян, які пражыў усяго 20 гадоў, лічыцца адным з заснавальнікаў нацыянальнай літаратурна-мастацкай крытыкі. Нарадзіўся ён 19 кастрычніка 1890 г. у мястэчку Брагін (цяпер раённы цэнтр) Рэчыцкага павета. Быў трэцім дзіцём у сям'і арандатара Епіфана Палуяна і ягонай жонкі Аляксандры. Усяго ж у гэтай сям'і было васьмёра дзяцей (пяць дачок і тры сыны). Праз пяць месяцаў пасля нараджэння Сяргея сям'я пераехала на стала ў вёску Крышычы Юравіцкай воласці Мазырскага павета, дзе ў 1897 г. набыла ўласны фальварак. Цікавасць да кніг на роднай мове, забароненых уладаю, прага да вывучэння краязнаўства і культуры роднай старонкі, першыя вершы на роднай мове — усё гэта, напэўна, было дадзена звыш. Бацька Сяргея Палуяна быў верным расейскім падданым, таму захапленне сына беларускай моваю ён не разумеў, на гэтай глебе здараліся канфлікты.

Вучыўся Сяргей Палуян у Мазырскай прагімназіі, дзе зблізіўся з рэвалюцыйнай моладдзю, распаўсюджваў улёткі, адозвы, удзельнічаў у мітынгах пратэсту. Ужо ў 15 гадоў хлопец быў самаадукаваны, прачытаў на той час усе забароненыя творы вядомых пісьменнікаў. Пасля паехаў вучыцца ў гімназію ў Мітаве (цяперашняя Елгава, Латвія). У 1908 г. увайшоў у кіроўны орган Беларускай сацыялістычнай грамады.

З-за канфлікту з бацькам, які адмоўна ставіўся да грамадска-палітычнай дзейнасці сына, кінуў вучобу і самавольна пераехаў у Кіеў. Па сутнасці неразуменне бацькамі светапогляду і пазіцый сына прывяло да трагедыі. Сяргей Палуян надзвычай імкліва прамільгнуў на небасхіле беларускай літаратуры. 20 красавіка 1910 г. ён скончыў сваё жыццё самагубствам. Хоць некаторыя даследчыкі выказваюць версію пра забойства паэта. Быў пахаваны на Байкаўскіх могілках у Кіеве, якія былі знішчаны перад Другой сусветнай вайной. Пакінуў пасля сябе пазашлюбнага сына ад каханай дзяўчыны Наталлі.

Сяргей Палуян — аўтар празаічных твораў „Вёска", вершаў у прозе „Хрыстос уваскрэс" і іншых. У час пражывання ў Кіеве супрацоўнічаў з часопісам украінскай моладзі „Українська хата", друкаваўся ў газеце „Рада" і часопісе „Світло". Рабіў допісы ў „Нашу ніву". У сваіх „Лістах з Украіны" зрабіў сістэматызаваны агляд культурна-гістарычнага жыцця ўкраінскага народа і беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей пачатку XX стагоддзя. Аўтар артыкула „Аб нацыянальнай школе ў Беларусі", рэцэнзіі на кнігу „Другое чытанне для дзетак беларусаў" Якуба Коласа. Сам складаў літаратурную хрэстаматыю для дзяцей. Сяргей Палуян актыўна выступаў за развіццё беларускай мовы і культуры, а таксама падтрымліваў адраджэнне іншых паняволеных нацый у Расейскай імперыі — украінцаў, чувашоў, якутаў.

Зборнік твораў Сяргея Палуяна пад назвай „Лісты ў будучыню" быў выдадзены ў час перабудовы ў 1986 г. Асобе пісьменніка прысвечана вядомая паэма Янкі Купалы „Курган", а таксама ягоны верш „Памяці С. Палуяна", знакаміты і адзіны зборнік Максіма Багдановіча „Вянок", верш у прозе „Раны" Ядвігіна Ш. Гэта яскрава сведчыць пра талент і літаратурны ўзровень пісьменніка, жыццё якога было такім кароткім.

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Канферэнцыя

## «Польшча і Беларусь у сучаснай Еўропе»

У Варшаўскім універсітэце адбылася Міжнародная навуковая канферэнцыя «Польшча і Беларусь у сучаснай Еўропе». Праходзіла яна ў Інстытуце еўрапеістыкі, а суарганізатарамі выступілі Пасольства Рэспублікі Беларусь (Варшава), Прыродазнаўча-гуманітарны ўніверсітэт (Седльцы), Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт (Мінск) і Таварыства супрацоўніцтва Польшча-Усход. У ліку дакладчыкаў было 12 прадстаўнікоў Беларусі і 21 — Польшчы. Член праграмнай рады праф. Владзімеж Фелер (ПГУ) адзначыў, што канферэнцыя гэта беспрэцэдэнтная, шырокамаштабная падзея, рэалізаваная як польскім, так і беларускім навуковымі коламі. Галоўнай мэтай канферэнцыі было пачаць міжнародную дыскусію на тэму прасторы польска-беларускага супрацоўніцтва ў перспектыве выклікаў, якія стаяць перад Еўропай.

Паводле меркаванняў пасла Беларусі Аляксандра Аўяр'янава, вялікая колькасць удзельнікаў канферэнцыі сведчыць аб сур'ёзным зацікаўленні ўзаемнымі зносінамі. Тым больш, што цягам апошняга года наглядаецца пэўная змена клімату палітычных зносін і ажыўленне гандлёвага абмену. Пасол сказаў, што Беларусь працягнула руку ва ўмовах канфлікту на Усходзе. Аднак, як мяркуе праф. Мечыслаў Часноўскі з Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта, у Еўрапейскім Саюзе ў далейшым Беларусь як патэнцыйны калідор паміж канкурэнтнымі блокамі не ацэнена належным чынам. Аналізуючы польскі падыход да гэтай справы, д-р Кшыштаф Федаровіч з Універсітэта Адама Міцкевіча ў Познані сцвердзіў наяўнасць валюнтарызму і адсутнасць альтэрнатыўных ідэй. Паводле яго меркаванняў, неабходная ініцыятыва новага адкрыцця ва ўзаемных зносінах. Гэтаму маглі б паспрыяць бліжэйшае ўзаемапазнанне, паколькі веды аб краіне-суседцы павярхоўныя, а дзеянні — у вялікай ступені матываваныя стэрэатыпамі.

Старшыня парламенцкай групы па супрацоўніцтве з Рэспублікай Беларусь, дэпутат Яўген Чыквін адзначыў, што гэтага роду ініцыятывы як дадзеная канферэнцыя набліжаюць нашы краіны і спрыняюцца да пераадольвання бар'ераў. Падкрэсліў аднак, што сур'ёзнай памылкай з'яўляецца адсутнасць непасрэдных зносін паміж парламентамі абедзвюх краін. Таму, каб хаця ў пэўнай ступені абмежаваць адмоўныя тэндэнцыі выцякаючыя з недахопу кантактаў, у 2013 годзе была заснавана парламенцкая група. Самай неадкладнай задачай прызнаў ён інтэнсіфікацыю прыгранічнага супрацоўніцтва. Яно важнае ў грамадскім, культурным і эканамічным планах. Толькі ў мінулым годзе ў Падляшскім ваяводстве грамадзяне Беларусі купілі тавараў на больш чым 1 млрд. злотых. Арганізатары разлічваюць, што канферэнцыя дасць імпульс для ажыўлення польска-беларускіх зносін, наладжання галіновых кантактаў і фармавання прыязнай атмасферы для далейшага супрацоўніцтва. Аб зацікаўленні кантактамі можа сведчыць факт, што польскія дыпламатычныя прадстаўніцтвы ў Беларусі ў 2014 годзе выдалі больш за 400 тысяч віз. Двухбаковае супрацоўніцтва неабходнае для эканомікі, а ад яго інтэнсіфікацыі скарыстаюць грамадзяне абедзвюх краін. Бенефіцыянтамі стануць таксама нацыянальныя меншасці — беларуская ў Польшчы і польская ў Беларусі, якія атрымаюць большыя магчымасці кантактаў і супрацоўніцтва з этнічнай бацькаўшчынай. Перш за ўсё скарыстаюць жыхары памежжа. Пэўнай ластаўкай змен з'яўляецца заява Беларусі, што ў чэрвені будзе адменены візавы рэжым пры наведванні Белавежскай пушчы на беларускім баку. Уступленне ў сілу чакае яшчэ дамова аб малым памежным руху, якая карэнным чынам пасадзейнічала б ажыўленню ўзаемных кантактаў і павелічэнню гандлёвага абмену.

Тэкст і фота Адама БОБРЫКА

# Праваднaя нядзеля

Тыдзень пасля Вялікадня вернікі Праваслаўнай царквы адзначаюць Праваднуя нядзелю. Зранку ў храме адбываецца святочная літургія, падчас якой адбываецца супольная малітва за памерлых. Пасля багаслужбы ўдзельнікі падаюцца на могільнік. На магілах суродзічаў укладаюць кветкі, запальваюць лампадкі. Святар асвячае магілы. Дзень малітвы за памерлых у царкве ў Кузаве праходзіў у суботу 18 красавіка, затым наступнага дня ў нядзелю. І хоць у нядзелю стаяла халоднае надвор'е і выпаў град са снегам, на могільніку сабралася шмат людзей. Магілы блізкіх наведалі не толькі кузаўцы, але і чарамшане, жыхары Рэпчыцы, Вулькі-Тэрахоўскай, Гайнаўкі, а нават і Бельска-Падляшскага. За ўпакаенне памерлых разам са сваякамі маліўся і асвячаў магілы а. Рыгор Наумовіч. Праваднaя нядзеля гэта таксама нагода для сямейных сустрэч і святочнага застолля.

(ус)

На Кузаўскім могільніку

Фота Уладзіміра СІДАРУКА

# Адгаданка

Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. далікатная ворсавая скура з аксамітнай паверхняй = 21 _ 22 _ 18 _ 27 _ 3 _;
2. рабізна на воднай паверхні = 13 _ 6 _ 7 _;
3. труба для адводу дыму з печы = 10 _ 11 _ 12 _ 15 _ 14 _;
4. 3,14 = 25 _ 26 _;
5. размеркавальнае памяшканне ў вясковай хаце = 28 _ 20 _ 19 _ 17 _;
6. жыхар Брна = 23 _ 24 _ 2 _;
7. ядомая расліна з прадаўгаватым лісцем кіслага смаку, з якой смачны, прыпраўлены звараным яйкам, суп = 5 _ 9 _ 8 _ 4 _ 1 _;
8. цэнтральнаазіяцкая рагатая жывёла, якую часта ставіцца ў пачатак пытальнага сказа = 29 _ 16 _.

(ш)

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| | | | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| | | | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| | | | | | | | 19 | 20 |
| 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на адгаданку з 14 нумара

Дзень, паляк, Каена, Брагін, смала, сіта, дыск, цень, шыла, сяло, яслі, Быкаў, Ілі, сяброўка, Заблудаў, сноп, Ніневія.

Рашэнне: **Каб не смяяліся ды не цешыліся, так бы даўно павесіліся**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

# 26.04 — 02.05

**(22.03. — 20.04.)** Можаш сустрэць кагосьці, хто будзе для цябе важны. Добры час для пабудовы планаў на будучыню: яны збудуцца. Адкрый усе вокны і дзверы для новых падзей і магчымасцей і будзь упэўненым, што яны абавязкова прыйдуць. Пасняховым будзе зварот у органы ўлады. Зможаш мець справу з вялікімі ўстановамі або дзяржаўнымі агенцтвамі.

**(21.04. — 21.05.)** Можа ўдацца табе скінуць пару кіло. На працягу тыдня магчымыя нядобрасумленныя ўчынкі калег па бізнесе. З катэгорыі роўных партнёраў могуць паспрабаваць перамясціць цябе на прыступку ніжэй. Магчыма, хтосьці будзе імкнуцца неяк абмежаваць тваю свабоду, нейкім чынам на цябе паўплываць і прымусіць да ўчынкаў і дзеянняў, якія пасля стануць для цябе стратнымі.

**(22.05. — 22.06.)** Дамаўляйся на аперацыі і іншыя медычныя працэдуры. Згодна зорнаму прагнозу, у адносінах да цябе будуць прыняты сапраўды лёсавызначальныя рашэнні, якія вызначаць тваё жыццё на бліжэйшыя месяцы і нават на гады. Адкрыйся на новыя падзеі і магчымасці.

**(23.06. — 23.07.)** 26-28.04. нядобры час на супрацоўніцтва з новымі знаёмымі. Табе захочацца чымсьці дапамагчы іншым людзям, але не дай ім сесці табе на шыю. Пазбягай вялікай фізічнай напружанасці, не прабуй рабіць больш, чым можаш, і гаварыць тое, чаго не ведаеш. Будзеш мець падтрымку звыш, калі возьмешся за сур'ёзнае навучанне або паспрабуеш зладзіць сваё асабістае жыццё.

**(24.07. — 23.08.)** 27-30.04. канфлікты з блізкімі. Трэба будзе вырашыць важнае; знайдзі кампраміс, давер партнёру. Падзеі, якія, здавалася б, ніяк з табою незвязаныя, могуць унесці ў тваё жыццё страты і блытаніну. Важныя справы і рашэнні перанясі на іншы час. Адмоўся ад публічных выступаў і гучных заяў.

**(24.08. — 23.09.)** Яшчэ ў красавіку могуць прыплысці да цябе немалыя грошы. Магчыма, трэба будзе здзейсніць невялікае падарожжа: з'ездзіць за горад, наведаць сябра, які жыве ў суседнім горадзе, або адправіцца ў службовую камандзіроўку. Выберыся на свежае паветра і прысвяці час свайму здароўю. Чым спакайнейшы і мернейшы будзе твой адпачынак, тым лепш.

**(24.09. — 23.10.)** 25-28.04. ззянне і ўмеласць схіляць да сябе людзей, паявяцца незвычайныя нагоды, выкарыстай іх. Твае пачуцці пачнуць пераважаць над логікай, і гэта можа стаць прычынай тваіх промахаў. Але маеш магчымасці і сілы супрацьстаяць негатыўным момантам. Адкінь раздражнёнасць і паспрабуй мацней паглыбіцца ў прапановы, якія паступаюць ад тваіх знаёмых, сваякоў і калег; падтрымай іх.

**(24.10. — 22.11.)** Вучыся ад гаспадарлівай асобы са свайго атачэння. Але пільнуйся ад абманшчыкаў. У бліжэйшы час грошы палюбяць цябе, калі толькі ты сам будзеш да іх неабыякавым.

**(23.11. — 22.12.)** Добры час на важныя рашэнні. Веды самі ўваходзяць у тваю галаву. На працы будзеш добрым суддзёй. Непрадбачаныя падзеі могуць на гэтым тыдні прывесці да сур'ёзных канфліктаў дома. Калі хтосьці затаіў супраць цябе камень за пазухай, то зараз ён яго абавязкова дастане. Праяві дыпламатычнасць, каб дамагчыся ажыццяўлення сваіх даўніх жаданняў і планаў.

**(23.12. — 20.01.)** Прыліў новых сіл і жвавасці. Пакажаш сваю ўмеласць у негацыяцыях. Можаш пашукаць і знайсці новы занятак. Не бойся рызыкі. Можа, купіш штосьці новае або сходзіш на новыя курсы?

**(21.01. — 19.02.)** 26 і 27.04. — не лезь на ражон! Чакае цябе незабыўны тыдзень, багаты самымі рознымі запамінальнымі падзеямі: ад нечаканых набыткаў да сур'ёзных памылак і страт. Акрамя таго, менавіта на гэтым тыдні ўсе твае сваякі, цяперашнія і даўнейшыя сябры і знаёмыя вырашаць нагадаць табе пра сябе, так што рыхтуйся да бясконцых тэлефонных званкоў, нечаканых гасцей і выпадковых сустрэч.

**(20.02. — 21.03.)** 27-30.04. чакае цябе поспех. Дацэняць цябе, а стары знаёмы акажа сваю ўдзячнасць. Не абяцай большага, чым можаш зрабіць, каб потым не атрымаць абвінавачванняў у падмане і не пашкодзіць свайму фінансаваму і сацыяльнаму становішчу. Калі гэта магчыма, перакладзі ўсе свае абавязацельствы на чужыя плечы. Не аддавай свайго каштоўнага часу на парожнія размовы з круцялямі.

Агата АРЛЯНСКАЯ

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł, roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7:00 – 18:00.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1300 egz.

# Чыгунка ў Аўгустаў

Паглядаючы з акон поезда на мільгаючы навонкі краявід часам хочацца да некаторых яго дэталяў прыглянуцца больш грунтоўна, спадзеючыся назнаёміцца з нечым цікавым. Вось так і мне, праязджаючы па чыгунцы між Саколкай і Дубровай, захацелася прайсціся ўздоўж яе пяшком, заглянуць, ці на сваім пуці нечага цікавага не прыхавала. І так высадзіўся я на станцыі ў Сідры, каб падацца адтуль уздоўж чыгункі да чарговага прыпынку — да Ружанастока. Бо ж праязджаючы тры ці чатыры месяцы таму з акон поезда пабачыў я на станцыйным ружанастоцкім будынку аб'яву пра яго продаж...

А яшчэ ад Саколкі да Сідры ўгледзеў я па абочынах чыгункі нейкія раскопкі, якія падаліся мне рыхтаваннем да ўсёахопнай цяпер мадэрнізацыі акурат гэтага чыгуначнага адрэзка, магчымым прадаўжэннем рэалізаванай між Беластокам і Варшавай пабудовы міжнароднай магістралі Rail Baltica.

На станцыі ў Сідры паказалася складзеная побач пуці куча чыгуначных рэек. У адным з прашклёных памяшканняў станцыі сядзеў дыспетчар, аднак так быў ён заняты спагляданнем у, бадай, светлую тамашнюю чыгуначную будучыню, што ўпарта не заўважаў маёй перад ягоным акном прысутнасці. Не, дык не — не буду я яму перашкаджаць у ягонай складанай працы на станцыі, праз якую зараз праязджае тры пары пасажырскіх цягнікоў у суткі і, магчыма, некалькі яшчэ таварных саставаў.

Падаўся я ў Сідру, да якой цэнтра ад чыгуначнай станцыі недзе каля паўкіламетра. Вымашчаны тратуар пралягае па маляўнічай набярэжнай ракі Сідры. На супрацьлеглым беразе ракі балоцістая пойма, зарослая альшынай, якой, здаецца не трывожыць тамашні чалавек і выглядае яна як прыродны запаведнік. Ландшафт там вельмі сагравае душу.

У самой Сідры ў восем гадзін раніцы яшчэ санліва. Перад адной крамай чацвёрка мужчын сярэдняга ўзросту даволі млява прыглядаецца амаль нерухомаму мястэчковаму пейзажу; усярэдзіне адзін пажылы пакупнік. У чарговай краме толькі персанал. У яшчэ адной, насупраць касцёла, дзве пакупніцы.

Касцёл у Сідры з'яўляецца адносна маладым набыткам мястэчка, бо, як падае *Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага* з канца XIX стагоддзя, „dźwignięto w 1783 r. z muru obecny kościół katol. p. w. św. Trójcy. Świątynia ta, wzniesiona na wyniosłem wzgórzu, odznacza się pięknym stylem włoskim, ma 38 arsz. długości, 19 szerokości a 26 wysokości, oprócz zakrystyi i skarbca. Kryta gontami, wewnątrz przedstawia się ubogo". Так было каля ста трыццаці гадоў таму.

Пра само мястэчка Сідра *Слоўнік* так інфармаваў: „Zabudowana na wzgórzu panującem nad bagnistą okolicą ma 110 d[omów], przeważnie drewnianych, 920 m[ieszkańców] (w 1878 r.), w tem 604 żydów, zarząd miejski, zarząd gminny, cerkiew, kośc. kat., kośc. ewang., dom modlitwy żydowski, targi co niedzielę, st. poczt. Ludność trudni się rolnictwem lub drobnym przemysłem. Par. prawosł., dekanatu (białoczynia) sokólskiego, 1531 wiernych. Par. katol., również dekanatu sokólskiego, 2224 wiernych. Niewiadomo kie dy powstała ta osada". Крыху пазнейшы за згаданы даведнік *Слоўнік Брокхаўза і Эфрана* пісаў так: „Жителей 1097; церкви православная и католическая, еврейский молитвенный дом. Почтовое отделение".

Паміж гэтымі апісаннямі ёсць адна розніца, якая, дарэчы, захавалася па сённяшні дзень у сідранскім краявідзе. Гэта падмурак колішняга кальвінскага збору ў цэнтры мясцовасці. Быў ён узведзены ў другой палове XVI стагоддзя Яўстафіем Валовічам, які ў 1569-1579 гг. быў троцкім кашталянам. І быў ён даволі важнай асобай у Рэчы Паспалітай; Зыгмунт Глогер: „Starszeństwo krzeseł kasztelanów większych ustanowiono w r. 1569 takie: 1) krakowski, 2) wileński, 3) trocki, 4) poznański...". *Слоўнік*: „Na schyłku XVII w. Adam Szczuka, podkanclerzy litew., ożeniwszy się z Potocką i nabywszy dobra sidrzańskie, usiłował odjąć zbór kalwinom i obrócić go na kościół katolicki, na wstawiennictwo jednak dworu pruskiego zaniechał tej myśli i zbór przetrwał do naszych prawie czasów, rozebrany bowiem został dopiero w r. 1880 wraz z b. pałacem Potockich".

Палац Патоцкіх быў у Сідры ўзведзены недзе ў першай палове XVII стагоддзя пасля шлюбу Крыштофа Патоцкага з Аленай з Валовічаў, а зараз па ім і след прастыў. Затое ў другой палове мінулага стагоддзя была побач Сідры пракладзена згаданая напачатку чыгунка, якая мела прыблізіць Аўгустаў да Беластока, Варшавы і г.д. Да апошняй вайны дзейнічала чыгунка паміж Аўгустовам і Гроднам, пабудаваная яшчэ ў царскі час, якая мела злучаць тадышнія неперамен губернскія Аўгустаў і Сувалкі са сталічным тады Пецярбургам, але пакольки ўстаноўленая пасля згаданай вайны новая дзяржаўная граніца размежавала гэтыя гарады, чыгуначная лінія была скасавана, а рэйкі на адрэзку ад Каменнай-Новай да Гродна і зусім зняты.

Будова чыгуначнай лініі з Саколкі ў Каменную-Новую была распачата ў 1958 годзе. Тадышняя „Газета беластоцкая" пісала пра задуму новай чыгункі так: „Linia ta skróci przejazd z Białegostoku do Augustowa o ponad 70 km i niewątpliwie przyczyni się do większego rozwoju turystyki na Augustowszczyźnie oraz zaktywizuje zaniedbane gospodarczo tereny, szczególnie powiatu dąbrowskiego i sokólskiego". Новая лінія пракладвалася па абрабляных сялянамі палях і то ў такой спешцы, што чыгуначныя ўлады не надта турбаваліся пра фармальную трасіроўку новага аб'екта і сяляне навесну 1959 года не ведалі, ці абсяваць яшчэ свае палі, ці ўжо не... У 1960 годзе ў будову чыгункі ўмяшаўся іншы суб'ект: „Ostatnio dużo zamieszania narobiły deszcze. Woda zniszczyła wiele nowych nasypów, obecnie naprawia się szkody...". Да таго ж насельніцтва Дуброўшчыны, для якога новая чыгунка мела быць „акном у свет", не надта гарнулася да новай задумы — не ўдавалася набраць дастатковай колькасці рабочых з ліку навакольнага сялянскага насельніцтва, а да таго ж тое насельніцтва не надта таксама гарнулася да збірання шматлікіх камянёў са сваіх палёў на шчэбень пад новаўвядзенне. Пра прыцягненне да работы мясцовага насельніцтва нямала пагарачыліся тамашнія павятовыя ўлады.

У выпадку Дубровы напачатку стаяла пытанне, з якога боку новага павятовага цэнтра павесці чыгунку і пабудаваць вакзал: ці з усходу, ці з захаду. З захаду было б танней — гэта з эканамічнага пункту гледжання. А грамадскі пункт гледжання патрабаваў, каб чыгунку правесці з усходняга боку мястэчка. Бо заходняя частка тадышняга Дуброўскага павета была больш гаспадарча развітая чым усходняя: па заходняй частцы праходзіла шаша з Беластока ў Аўгустаў, а ва ўсходняй частцы павета нават прыстойных дарог не было. Да таго ж ад усходу Дубровы былі больш зручныя ўмовы для новых інвестыцый ды для жыллёвага будаўніцтва. І такім чынам было прынята рашэнне аб пракладцы новай лініі па ўсходніх абмежках Дубровы, куды, дарэчы, пазней і пацягнулася разбудова горада...

Гэтыя справы „пераварваліся" за паўстагоддзе таму; сёння чыгуначная лінія ляжыць там, дзе яе калісь праклалі. А як яна выглядае, рушыў я пабачыць пакуль асфальтоўкай, што з Сідры спачатку ў Саломянку, а пасля ў Дуброву. І калі толькі ступіў з асфальтавага на чыгуначнае палатно, адразу адчуцалася мне любавацца калячыгуначным краявідам і разглядацца за нейкімі цікавінкамі пабач жалезнай, як калісь называлі, дарогі. Менавіта насып чыгункі на адрэзку ад Сідры да Ружанастока даволі вузкі, проста мінімальны, абы толькі змесцілася на ім падсыпка пад шпалы. Тая падсыпка са шчэбеню з такіх вострых абломкаў каменя, што вельмі па іх нявыгадна хадзіць. А побач насыпу не надта выгадны для хады грунт. Але... І да чыгуначнага насыпу дабіраюцца дзікі — у адным месцы ён нават прыстойна дзікамі апрабаваны; але не разрушаны... Памучыўся я так па тым шчэбені каля кіламетра, прайшоўшы цераз поймы рэчак Бярвіхі і Масцішанкі. Шчасліўленька, насустрач мне паказаўся пешаход, які аказаўся пуцявым абходчыкам. Даведаўся я ад яго, што нядаўна былі там пакладзены новыя рэйкі, а старыя ляжаць акурат у Сідры. Купіў іх нейкі прыватнік, парэзаў на каротшыя кускі і цяперака павязе іх у Нямеччыну, у тамашнія металургічныя заводы для пераплаўкі.

Ужо дома пацікавіўся я трасай прадбачванай лініі Rail Baltica. Бо і для гэтай лініі ёсць дылема, як калісь для Дубровы: ці праляжа яна з Беластока праз Аўгустаў, ці праз Элк. Здаецца ўжо вырашаным, што праляжа яна цераз Элк. Дарэчы, там лінія электрыфікавана. А лінію цераз Дуброву, магчыма, складана было б і электрыфікаваць, бо побач насыпу няма нават месца для слупоў, на якіх павіслі б электраправады. Ну, а калі б дзікі пастараліся больш...



■ Рэйкі на сідранскай рампе



■ Касцёл у Сідры

А з чыгункі я неўзабаве сышоў пры першай нагодзе і павандраваў лесам у напрамку Шостакаў. Здавалася, што лесу не будзе і канца, але раптам паказалася поле, а з акраіны панарама даліны ракі Сідры, а за ёй агароджа сідэрчанскіх праваслаўных могілак, а неўзабаве і сідэрчанскі касцёл. У той час, калі пісаліся згаданыя раней даведнікі, храм быў прызначаны праваслаўю і, мабыць, гэта ён згадваўся як сідранская царква. Бо ў самой Сідры, як мне здаецца, царквы не было; прынамсі пра такую няма інфармацыі ў вельмі грунтоўным даведніку пра колішнія цэрквы ў басейне Бобры і Нарвы аўтарства сужонства Соснаў. А далёкім сталічным аўтарам колішніх даведнікаў якая ж была розніца між Сідрай і Сідэркай?..

Шостакі — вёска невялікая. Пасярэдзіне вёскі два аднолькавыя крыжы — лацінскі і візантыйскі. У Грабянях адноўлены будынак святліцы. Калісь у вясковых святліцах бываў тэлевізар, крыху газет — для ўкультурвання моладзі. Заглянуў я цераз акно ў святліцу грабянёўскую — яна наскрозь сучасная: пасярэдзіне залы радок новых сталоў, за якімі гэтак жа новыя крэслы. Каб час ад часу за тымі сталамі пасядзела пастарэлае пакаленне і паўспамінала адплываючае мінулае...

Яшчэ момант пра здадзеную ў палове снежня 1963 года чыгуначную лінію з Саколкі ў Каменную-Новую; „Газета беластоцкая": „Nowa linia kolejowa wymagała wybudowania 9 mostów i wiaduktów oraz 42 przepustów. Zużyto m.in. 120 tys. ton tłucznia i 64 tys. sztuk podkładów żelbetowych. Wykopano ponad 1 mln 100 tys. m sześc. ziemi". У красавіку 2015 года на месцы колішняй ружанастоцкай пачакальні пустое месца...

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

ISSN 0546-1960